VERTIGO
BOOK 1



«Гэта прыклад таго, як Бог стварыў комікс».
— RevolutionSF.com

«Гэтая кніга вынясла нам мозг».
— WIZARD

Brian K. Vaughan Pia Guerra José Marzán, Jr.

# АПОШНІ МУЖЧЫНА

## Unmanned

     

# АПОШНІ МУЖЧЫНА






**1 ВЫПУСК**
**2 ВЫПУСК**
**3 ВЫПУСК**
**4 ВЫПУСК**
**5 ВЫПУСК**

**ПЕРАКЛАД АРТУРА БАРАДАЧОВА,**
**АФАРМЛЕННЕ КОЗЫРАВА СЯРГЕЯ**




**Бруклін. Нью-Ёрк.**
**Зараз.**









**Бруклін. Нью-Ёрк.
Дваццаць дзевяць
хвілін таму.**



ЁРЫК, ГЭТА ГУТАРКА КАШТУЕ СЕМДЗЕСЯТ ПЯЦЬ ЦЭНТАЎ У ХВІЛІНУ.

ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЖАДАЕШ ПАГУТАРЫЦЬ ПРА ЭЛВІСА?







ГЭТА ПРАЎДА! ІДЭНТЫЧНЫ БРАТ-БЛІЗНЮК!
ЯГО ЗВАЛІ ДЖЭСІ ГАРОН ПРЭСЛІ, НАРАДЗІЎСЯ МЁРТВЫМ ЗА НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН ДА ТАГО, ЯК ГЛЭДЫС ПАДАРЫЛА СВЕТУ КАРАЛЯ. ЯГО ПАХАВАЛІ Ў **КАРОБЦЫ З-ПАД АБУТКУ**.


ГЭТА Ж САПРАЎДНАЕ ВАР'ЯЦТВА! Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, А ШТО, КАЛІ БДЖЭСІ ВЫЖЫЎ, А ЭЛВІС ПАМЁР? ЦІ... ЦІ КАЛІ Б ЯНЫ АБОДВА ВЫЖЫЛІ!?
ЁРЫК, ТАБЕ Ж НАВАТ НЕ ПАДАБАЕЦЦА ЭЛВІС. АДКУЛЬ ТАКАЯ ЦІКАВАСЦЬ?


НЯ ВЕДАЮ. ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ РАЗВАЖАЛА НАКОНТ ЛЁСУ?
ЧАМУ ЯНЫ ВЫБІРАЮЦЬ АДНАГО ЧАЛАВЕКА, А НЕ ІНШАГА. ВОСЬ ТАКОГА РОДУ ДУМКІ...?


ЦЯБЕ НЕ ЎЗЯЛІ, ТАК ЖА?




ММ, НЕ.
НЕ ЎЗЯЛІ.


МНЕ ШКАДА, МАЛЫШ.
ТЫ АБАВЯЗКОВА САБЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ПАДШУКАЕШ! ПРОСТА ТАБЕ ТРЭБА ТРОХІ ЧАСУ.
МАГЧЫМА... АЛЕ Я ВЫПУСЦІЎСЯ ЎЖО БОЛЬШ ГОДА ТАМУ, БЭТ. А РЫНАК ПРАЦЫ НЕ РАЗВАРОЧВАЕЦЦА АД ВАКАНСІЙ МАГІСТРАЎ ЛІНГВІСТЫКІ З НАВЫКАМІ ПРАЦЫ НА КАМП'ЮТЭРЫ НІЖЭЙ ЗА СЯРЭДНІ.


У ЦЯБЕ ЗАСТАЛАСЯ ХОЦЬ БЫ ТРОХІ ГРОШАЙ?
АГА. ЗРАЗУМЕЛА, МНЕ ДАВЯДЗЕЦЦА ПАСІДЗЕЦЬ НА КІТАЙСКАЙ ЛОКШЫНЕ З МЕСЯЦ, АЛЕ ЗА ЖЫЛЛЁ ЗАПЛАЦІЦЬ ЗМАГУ.
Я ЎЧОРА ЗАРАБІЎ ПАРУ СОТНЯЎ, ВЫКОНВАЮЧЫ ДЗІЦЯЧЫЯ ТРУКІ З КАРТАМІ НА ПЛОШЧЫ ВАШЫНГТОНА. АЛЕ КОП ЗАБРАЎ У МЯНЕ ПАЛОВУ. ЯМУ НЕ СПАДАБАЛАСЯ, ШТО Я ПАЗЫЧЫЎ ЯГО НАРУЧНІКІ, СПРАБУЮЧЫ ЎЦЯЧЫ.


КОП! СЛОВА ГОНАРУ. ГЭТА БЫЛО ПРАМА ЯК У "ДРЭННЫМ ЛЕЙТЭНАНЦЕ" ЦІ НАКШТАЛТ ТАГО. Я ЛІЧУ. МАБЫЦЬ ПАСКАРДЗІЦЦА НА ЯГО =КЛІК= ЗА ВЫМАГА =КЛІК=.
ЧОРТ, У МЯНЕ ЗВАНОК ПА ДРУГОЙ ЛІНІІ. ПАЧАКАЕШ СЕКУНДУ?
ГЭТА ТВАЯ ТЭЛЕФОННАЯ КАРТКА, СЕРПІКА.


ДЗЯКУЮШКІ, НЕ КЛАДЗІ ТРУБКУ.
АЛЁ?
ЦЯБЕ ПРЫНЯЛІ НА ПРАЦУ, РОДНЕНЬКІ?


ПРЫВІТАННІ, МА.

# Вашынгтон. Дваццаць чатыры хвіліны таму.










ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ПАКАРАЦЬ?
ПАБАЧЫМ.
АЛЕ ЗВЫЧАЙНА ГЭТА РОБІЦЬ МОЙ МУЖ...


ДЖЭНІФЕР, Я СПАДЗЯЮСЯ НАША ПАРТЫЯ МОЖА РАЗЛІЧВАЦЬ НА ТВАЮ ПАДТРЫМКУ СУПРАЦЬ ПАПРАЎКІ ДА 1646 ПУНКТА.
НЯЎЖО? І З ЯКІХ ПОР МАГУТНАГА СЕНАТАРА ТУРБУЮЦЬ ПРАБЛЕМЫ НІЖЭЙШАЙ ІНСТАНЦЫІ?
НЕ СПРАБУЙ БЫЦЬ МІЛАЙ, КАНГРЭСВУМЭН. ДЫК МЫ АТРЫМАЕМ ТВОЙ ГОЛАС ЦІ НЕ?


НЕ: ТЫ ДОБРА ВЕДАЕШ, ШТО Я НЕ ЛІЧУ, ШТО ДЗЯЖДЭПАРТАМЕНТ ПАВІНЕН ДАПАМАГАЦЬ ЗАМЕЖНЫМ АРГАНІЗАЦЫЯМ, ЯКІЯ ЗАЙМАЮЦЦА АБОРТАМІ.
ЗРАЗУМЕЛА. ЗНАЧЫЦЬ ТЫ НЯ ЛІЧЫШ, ШТО МЕКСІКАНСКІМ ЖАНЧЫНАМ ТРЭБА ДАЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ПЛАНАВАЦЬ КОЛЬКАСЦЬ ДЗЯЦЕЙ.
Я ЦЯБЕ ПРАШУ, МАРЦІ. АБОРТ - НЯ ВЫХАД. Я ЎСЯГО ТОЛЬКІ ДУМАЮ, ШТО ЛЕПЕЙ ПАТРАЦІЦЬ ГРОШЫ, НАВУЧАЮЧЫ СВЕТ ПЕРАВАГАМ ВЫКАРЫСТОЎВАННЯ СРОДКАЎ ЭКСТРАННАЙ КАНТРАЦЭПЦЫІ.


МЕНАВІТА ГЭТАГА Я І БАЯЎСЯ. ЗНОЎ ГЭТА МАРКІТАВАНАЯ ФІЛАСОФІЯ РУХУ Ў АБАРОНУ ЖЫЦЦЯ. СКАЖАШ НЕ?
ДЖЭНІФЕР, ШТО Ж ТЫ ЗА ЖАНЧЫНА Ў РЭШЦЕ РЭШТ?


ТАКАЯ Ж, ЯК І ТЫ, МАРЦІ.ДЭМАКРАТ.
АЛЕ ТЫ ПРЫМАЕШ ПАЗІЦЫЮ РЭСПУБЛІКАНЦАЎ У ДАДЗЕНЫМ ВЫПАДКУ.
ТАК... ТАКСАМА ЯК І ТЫ РОБІШ 89% ЧАСУ Ў ПЫТАННЯХ ЗБРОЕВАЙ ПАЛІТЫКІ.


НУ, У ТАКІМ ВЫПАДКУ ДЗЯКУЙ ЗА ЎДЗЕЛЕНЫ ЧАС. СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ ПАСПЕЕШ НАЦЕШЫЦЦА РЭШТКАЙ СВАЙГО ТЭРМІНУ.


ГЭТА ПАГРОЗА, СЕНАТАР?
МНЕ НЯ ТРЭБА ПАГРАЖАЦЬ ТАБЕ, ДЖЭН.
АДНОЙЧЫ ТАБЕ ПАШАНЦАВАЛА. АЛЕ ДРУГІ РАЗ ЦЯБЕ НЯ ВЫБЯРУЦЬ... НЯ БЕЗ МАЁЙ ДАПАМОГІ.


ПРАБАЧЦЕ, СЭР. ВАС ВЫКЛІКАЮЦЬ У ЗАХОДНЯЕ КРЫЛО.
МАЯ СУСТРЭЧА ПАЧЫНАЕЦ-ЦА ПАСЛЯ СЯМІ.
ВАС ВЫКЛІКАЕ ПРЭЗІДЭНТ, СЭР. МНЕ СКАЗАЛІ ПЕРА-ДАЦЬ ВАМ, ШТО ГЭТА ДАТЫЧЫЦЦА "355".


МЫ ДАГАВОРЫМ У НАСТУПНЫ РАЗ. ПРАДСТАЎНІК.


ШТО АЗНАЧАЕ "355", МЭМ? ГЭТА Ж НЯ НУМАР ЗАКО-НАПРАЕКТА?
ХТО ВЕДАЕ?
АЛЕ КАЛІ ЯГО ВЫКЛІКАЎ ПРЭЗІДЭНТ, ЯК ВІДАЦЬ, ГЭТА НА-КОНТ БЕЙСБОЛА.


FDNY
ПРАБАЧ, МІЛАЯ, ГЭТА БЫЛА МАЦІ. ЗАЙМАЕЦЦА АСАРАМЛЕННЕМ РЭПУТАЦЫІ 22-ОЙ АКРУГІ АГАЯ.
КАРАЦЕЙ, ЯК ТАМ ЖЫЦЦЁ НА ІНШЫМ КАНЦЫ СВЕТУ?


ВЕЛЬМІ ФАЙНА. Я Б ЖАДАЛА ЗАСТАЦЦА ТУТ НА МЕСЯЦ... БЯЗ КРЫЎД, ЗРАЗУМЕЛА.
УЧОРА ГЭТЫ ВЫДАТНЫ АНТРАПОЛАГ ВАЗІЎ НАС НА ЭКСКУРСІЮ ПА СТАРАЖЫТНЫХ КАМЕННЫХ БУДОВАХ НАРОДУ І ПАКАЗАЎ МНЕ...
ПРАКЛЁН! АМПЕРСЭНД! СПЫНІСЯ!


ШТО ЯШЧЭ ЗА АМПЕРСЭНД?
ТЫ ВЕДАЕШ. ГЭТА ЗАКРУЧАНЫ ЗНАК, ЯКІ АЗНАЧАЕ "І". ЯК У "ЦЁРНЭР & ХАТЧ" ЦІ "ТАНГА & КЭШ".
Я ВЕДАЮ, ШТО ЗНАЧЫЦЬ АПМЕРСЭНД, БІНДОС! ЧАМУ ТЫ РАЗМАЎЛЯЕШ З ІМ?


JULIANA CHEN MAGIC
JULIANA CHEN MAGIC
METAL JACKET
GIBSON · DORÉ
HOLLYWOO
THE FILMS OF ANTONIO
SNOWCRASH
MICHELANGELO
FELLINI
IN THE SKIN OF A LION
MAN OUT OF TIME
ТАМУ ШТО ЁН КІДАЕ Ў МЯНЕ СВАЁ ЛАЙНО!



О, БОЖА.
ТОЛЬКІ НЕ КАЖЫ, ШТО ТЫ КУПІЎ ШЫМПАН-ЗЭ...




НЕ. ЁН – МАЛПА. І Я ЯГО НЕ ПАКУПАЎ, Я ЎЗЯЎ ЯГО НА ЎТРЫМАННЕ.
ПРЭЧ АД МАЙГО БУМАЖНІКА, ПАГАНЕЦ!




ГРУПА Ў БОСТАНЕ ШУКАЛА ЖАДА-ЮЧЫХ АБУЧАЦЬ ІХ, ВОСЬ Я І ВЫКЛІКАЎСЯ.
ГЭТЫЯ ЛАЙНАЕДЫ ПАВІННЫ ДА-ПАМАГАЦЬ ПАРАЛІЗАВАНЫМ З ІХ БЫТАВЫМІ КЛОПАТАМІ І ЎСЁ ТАКОЕ... АЛЕ НЯ ПЫТАЙ МЯНЕ ЯК.
ДЫК ШТО, ТЫ ЎЖО ПАСПЕЎ НАВУЧЫЦЬ СВАЮ МАЛПАЧ-КУ ЗАШПІЛЯЦЬ ДЗЯГІ НА ЎТАЙМАВАЛЬНАЙ КАШУЛІ?




АДКУЛЬ ТЫ...? У СЭНСЕ...
ТЫ ЎКЛЮЧЫЎ ГУЧНУЮ СУВЯЗЬ... А РОБІШ ТЫ ГЭТА ТОЛЬКІ ПАДЧАС СВАІХ ПРАКТЫКАВАННЯЎ "НЕВЕРАГОДНАГА ЁРЫКА"... А ГЭТЫМ ТЫ ЗАЙМАЕШСЯ, ТОЛЬКІ КАЛІ НЯРВУЕШСЯ.




Я БЫЛА ЎПЭЎНЕНАЯ, ШТО ТЫ ШТОСЬЦІ ЎТОЙВАЕШ. ТОЛЬКІ Я НЯ ДУМАЛА, ШТО ГЭТА ЖЫВАЯ ІСТОТА!
НЯДРЭННА, СКАЛІ... АЛЕ ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ ТОЛЬКІ НАПАЛОВУ. КАЛІ ТАБЕ ЦІКАВА, Я САПРАЎДЫ НЯРВУЮСЯ, АЛЕ ГЭТА НЕ З-ЗА...




А НУ ВЫКЛЮЧЫ, АМПЕРСЭНД!
...ЗАХОДНЯГА БЕРАГА ВАС ІНФАРМУЕ КРЫСТАФЕР ЭМАНУЭЛ...




Наблус. Заходні бераг.
Васемнаццаць
хвілін таму.







ГЭЙ!
ТАК, ВЫ, РАДАВЫ БЭНДЖАМІН! ГЭТА Ж ПРОСТА ДЗЕЦІ! ЯКОГА ЛЯСУНА ВЫ РОБІЦЕ?


Я ВЯДУ ПАПЕРАДЖАЛЬНЫ АГОНЬ ГУМОВЫМІ КУЛЯМІ ВЫСОКА НАД ГАЛОВАМІ ПАЛЕСЦІНЦАЎ.
І МЯНЕ ЗАВУЦЬ ПАЛКОЎНІК ТСЭЛАН. КАЛІ ВЫ ЯШЧЭ КАЛІ-НЕБУДЗЬ НАЗАВЕЦЕ МЯНЕ РАДАВЫ, Я ЎЖО НЯ БУДУ НАСТОЛЬКІ ГАСЦІННАЙ.
А. Я... Я ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ.


Я, ДАРЭЧЫ, КРЫСТАФЕР. ВЫ Б ЖАДАЛІ ТРАПІЦЬ НА ТЭЛЕБАЧАННЕ? Я РАБЛЮ РЭПАРТАЖ ПРА ЖАНЧЫН-САЛДАТАЎ.
РАЗУМЕЕЦЕ, ЦІКАВА ДАВЕДАЦЦА, ШТО ВЫ, ДАМЫ, ДУМАЕЦЕ ПРА ЛІКВІДАЦЫЮ АРМІЯЙ АБАРОНЫ ІЗРАІЛЯ ЖАНОЧЫХ КАРПУСОЎ... ЗРАЗУМЕЦЬ ЯК ГЭТА – ВАЯВАЦЬ ПЛЯЧО Ў ПЛЯЧО З ХЛОПЦАМІ, ЯК З РАЎНЫ...
ВЫ ПАВІННЫ НЕАДКЛАДНА ПАКІНУЦЬ ГЭТА МЕСЦА. НІВОДНЫ З ВАС ТУТ НЕ Ў БЯСПЕЦЫ.


ДАРАЖЭНЬКАЯ, МЫ ПРАЦУЕМ НА АДНОЙ З ШАСЦІ ТОПАВЫХ КАБЕЛЬНЫХ НАВІННЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ У ЗША. МЫ НІКОМУ НІЧЫМ НЕ **АБАВЯЗАНЫ**.
АЛЕ МЫ ЗГАДЗІМСЯ БЫЦЬ ВЫПРАВАДЖАНЫМІ... КАЛІ ВЫ ДАЗВОЛІЦЕ ЎЗЯЦЬ У ВАС ІНТЭРВ'Ю ПА ДАРОЗЕ. Я НАВАТ ПААБЯЦАЮ НЕ...
ЯК ВЫ ПАЖАДАЕЦЕ. ПАЙШЛІ.


BO'U NELEKH!
ТАК, ЭММ, У ВАС ЁСЦЬ ІМЯ, ПАЛКОЎНІК?
ЁСЦЬ...


АЛЕ МНЕ ЯНО НЕВЯДОМА.


НЕ ВЫСОЎВАЙЦЕ ГАЛОВЫ....
ДВА ПАПЯРЭДНІХ ДЗІЦЯЦІ МАЁЙ МАЦІ ПАМЕРЛІ ПРЫ НАРАДЖЭННІ. ТАКІМ ЧЫНАМ, КАЛІ ПРЫЙШОЎ МОЁ ЧАС, ЯНЫ ВЫРАШЫЛІ НЕ ПРАМАЎЛЯЦЬ МАЁ ІМЯ ЎСЛЫХ.
ГЭТА СТАРАЖЫТНАЯ НЕДАРЭЧНАЯ ТРАДЫЦЫЯ. МЭТА – АШУКАЦЬ АНЁЛА СМЕРЦІ, ЗБІЦЬ ЯГО З ПАНТАЛЫКУ, КАБ ЁН НЯ ВЕДАЎ, ДЗЕ МЯНЕ ЗНАЙСЦІ.

АЛЕ... ЯК НАЗЫВАЮЦЬ ВАС СЯБРЫ?
АЛТЭР.
МЯНУШКА. ЗНАЧЫЦЬ "СТАРАЯ". ГЭТА ДЛІННАЯ ГІСТОРЫЯ.

А МАЦІ З ТАТАМ НЕ БАЯЦЦА, ШТО АНЁЛ СМЕРЦІ ЗНОЙДЗЕ ВАС ТУТ?
НЯ ВАРТА ТУРБАВАЦЦА ПРА ГЭТА. МНЕ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ ДАВЯДЗЕЦЦА ЗАГАРТАВАЦЦА Ў БОЮ.
У ВАШЫМ ГОЛАСЕ Я АДЧУВАЮ РАСЧАРАВАННЕ.
ЗРАЗУМЕЛА. Я ЗАЎСЁДЫ МАРЫЛА СЛУЖЫЦЬ У АРТЫЛЕРЫЙСКІМ БАТАЛЬЁНЕ, АЛЕ ЦЯПЕР, КАЛІ Я ТРАПІЛА Ў ЯГО... САМАЯ ВЯЛІКАЯ НАША ПРАБЛЕМА – НЕЙКІЯ КАМЕННЕКІДАЛЬНІКІ.

А ВЫ ЖОРСТКАЯ ШТУЧКА. КОЖНАЯ З ДАЧОК ІЗРАІЛЯ, З ЯКОЙ МНЕ ДАВОДЗІЛАСЯ РАЗМАЎЛЯЦЬ, ТОЛЬКІ РАДАЯ ТАМУ, ШТО НА ЗАХОДНІМ ФРОНЦЕ ЎСЁ ЦІХА.
ЯНЫ МАГЛІ Б СТАЦЬ ДЭСАНТНІЦАМІ ЦІ КАМАНДЗІРАМІ НА ФЛОЦЕ... АЛЕ ДРУКАВАНЫЯ МАШЫНКІ ЦІ ЭКРАНЫ РАДАРАЎ І ПРЫВІЛІ ІМ ЗАДАВОЛЕНАСЦЬ ГЭТЫМ. Я НЕ ТАКАЯ.
МАЯ БАБУЛЯ ЎВАРВАЛАСЯ Ў ТЫЛ ВОРАГА ПАДЧАС НАШАЙ ВАЙНЫ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ. А ЯЕ БАБУЛЯ ЗНАХОДЗІЛАСЯ Ў ЖАНОЧЫМ БАТАЛЬЁНЕ СМЕРЦІ ПАДЧАС РУСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ.
ВОСЬ ХТО Я ТАКАЯ...

НЕ РАЗУМЕЮ. У СЭНСЕ НЕ ДЛЯ ПРАТАКОЛА, Я РАЗУМЕЮ БАРАЦЬБУ ЗА РОЎНАСЦЬ ПРАВОЎ І ЎСЮ ГЭТУ ЛУХТУ... АЛЕ Я ЛІЧЫЎ, ШТО ВЫ, ФЕМІНІСТКІ, ТАКСАМА З'ЯЎЛЯЕЦЕСЯ І ПАЦЫФІСТАМІ.
КАМУ ПАТРЭБЕН МІР...

...КАЛІ БІТВА НАВАТ НЕ ПАЧАЛАСЯ?


ЁРЫК, ТЫ ЛЯСНУТЫ!
ТЫ НЯ ЗМОГ ПАКІНУЦЬ У ЖЫВЫХ НАВАТ МАРСКІХ МАЛПАЎ, ЗАБЫЎСЯ? НАВОШТА, ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ, ТЫ ЗАВЁЎ **САПРАЎДНУЮ**?


Я НЯ ВЕДАЮ… МАБЫЦЬ, ПРОСТА Я ЖАДАЎ ЗРАБІЦЬ ШТОСЬЦІ КАРЫСНАЕ З УСІМ СВАІМ БАГАТЫМ "ВОЛЬНЫМ ЧАСАМ".
Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, ШТО ТЫ І АСТАТНІЯ ТВАЕ СЯБРЫ-ВАНДРОЎНІКІ РАЗ'ЕХАЛІСЯ РАТАВАЦЬ СВЕТ ЦІ ЯШЧЭ КУДЫ, А САМ Я ЯШЧЭ НІЧОГА І НІ ДЛЯ КАГО Ў ЖЫЦЦІ НЕ ЗРАБІЎ.
ДЫК ЧАМУ ТЫ НЕ ПРАВЯДЗЕШ ЛЕТА, УСТУПІЎШЫ Ў "ЖЫЛЛЁ ДЛЯ ЧАЛАВЕЦТВА"… ЦІ ЗАПІСАЎШЫСЯ Ў КОРПУС МІРАТВОРЦАЎ?


НУ, Я ВЕДАЮ, ШТО ГЭТА ГУЧЫЦЬ ГЛУПА, АЛЕ З ТАГО ЧАСУ, ЯК ТЫ ПАЕХАЛА, Я АДЧУВАЮ, ШТО АГАРАФОБІЯ ЗАХАПІЛА МЯНЕ ЦАЛКАМ.
РАНЕЙ Я ЛЮБІЎ ГУЛЯЦЬ. АЛЕ ЗАРАЗ Я ПАЧЫНАЮ АДЧУВАЦЬ СЯБЕ НЕКАМФАРТАБЕЛЬНА… КАМФОРТНА Ў ГЭТЫМ ПАДЗЯМЕЛЛІ. ЧАСАМ Я НЕ МАГУ НАВАТ ПРЫМУСІЦЬ СЯБЕ ВЫЙСЦІ ЗА ДЗВЕРЫ.


Я МАЙСТАР УЦЁКАЎ, ЯКІ НЯ ЗДОЛЬНЫ ЎЦЯЧЫ СА СВАЁЙ КВАТЭРЫ.


ГЭТА ВАР'ЯЦТВА, ТЫ, СВІРНАВАЯ МЫШ!
СВЕТ – ГЭТА СЛАЎНАЕ МЕСЦА. ЧАГО ТЫ БАІШСЯ?




**Аль-Карак. Іарданія.
Трынаццаць
хвілін таму.**










ПЕРАДАЙЦЕ ААН ЦІ... ЦІ ХТО ТАМ ВАС ПАСЛАЎ, ШТО МНЕ НЕ ПАТРЭБНА ПАЛІТЫЧНАЕ ПРЫСТАНІШЧА. ІЯРДАНІЯ ДАЛЁКА НЕ ІДЭАЛЬНАЯ КРАІНА, АЛЕ МЫ НЕ САЎДАЎСКАЯ АРАВІЯ.
ДОКТАР, ВЫ ХАВАЕЦЕСЯ **МЕСЯЦАМІ**. КОЛЬКІ ЗАМАХАЎ ВАМ ЯШЧЭ АТРЫМАЕЦЦА ПЕРАЖЫЦЬ?
КОЛЬКІ ПАТРАБУЕЦЦА. Я АДМАЎЛЯЮСЯ ДАХВАЛЯЦЬ КУПЦЫ МУСУЛЬМАНСКІХ ЭКСТРЭМІСТАЎ ПАДРЫВАЦЬ МАЕ ВЫСІЛКІ ПАЛАЖЫЦЬ КАНЕЦ "ЗАБОЙСТВАМ ГОНАРУ" МАІХ СЯСЦЁР.


РАЗМОВА НЕ ПРА ГЭТА.
АХ, НЕ ПРА ГЭТА?
ЧВЭРЦЬ АХВЯР ЗАБОЙСТВАЎ, ЗДЗЯЙСНЯНЫХ У МАЁЙ КРАІНЕ – ГЭТА ЖАНЧЫНЫ, ЗАБІТЫЯ СВАЯКАМІ МУЖЧЫНСКАГА ПОЛУ, ЯКІЯ ПРОСТА АБВІНАВАЦІЛІ ІХ У ЗДРАДЛІВАСЦІ ЦІ...ЦІ Ў "РАСПУСЦЕ".


НАШ КРЫМІНАЛЬНЫ КОДЭКС САМ САНКЦЫЯНІРУЕ ГЭТЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ, УХВАЛЯЮЧЫ ВЫНЯСЕННЕ ПАЛЕГЧАНЫХ ПРЫСУДАЎ, КАЛІ НА-ОГУЛ ЯКІХ-НЕБУДЗЬ, МОНСТРАМ, ЯКІЯ...
ФРОЗАН, ВЫ НЕ РАЗУМЕЕЦЕ.
ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЗДЕЙСНІЛІ ЗАМАХІ НА ВАША ЖЫЦЦЁ, НЕ ЗАЦІКАЎЛЕНЫЯ Ў ПАЛІТЫЦЫ.


ІХ ЦІКАВАСЦЬ ПРАДСТАЎЛЯЕ ТОЕ, ШТО ВІСІЦЬ У ВАС НА ШЫІ.


НІ... НІЧОГА НЕ РАЗУМЕЮ.


ЯНЫ ПАЛЮЮЦЬ ЗА АМУЛЕТАМ ЕЛЕНЫ, ДОКТАР.
ЗА АМУЛЕТАМ?
ГЭТА БЕСКАРЫС-НЫЯ КАРАЛІ... ЗВЫ-ЧАЙНЫ КАМЕННЫ ТАЛІСМАН!


ЗНАЧЫЦЬ ВЫ АДДАСЦЕ ЯГО МНЕ? ПА-КУЛЬ НІХТО НЕ ПАПАКУТАВАЎ.
НІКОЛІ.
МОЙ ТАТА СКАЗАЎ АДНОЙЧЫ, ШТО АДБУ-ДЗЕЦЦА КАТАСТРОФА, ПАРАЎНАЛЬНАЯ З ТРАЯН-СКАЙ ВАЙНОЙ, КАЛІ ГЭТА ЗАБАЎКА КАЛІ-НЕБУДЗЬ ПАКІНЕ ГЭТУ ЗЯМЛЮ.


І ВЫ ВЕРЫЦЕ Ў ГЭТА?
ЗРАЗУМЕЛА НЕ... АЛЕ Я ВЕРУ Ў ТРАДЫ-ЦЫЮ. ГЭТЫ АРТЭФАКТ ПРЫНАЛЕЖЫЦЬ МАЁЙ СЯМ'І НА ПРАЦЯГУ ПАКАЛЕННЯЎ. І Я НЯ МАЮ НАМЕР АДДАЦЬ ЯГО КАМУ-НЕБУДЗЬ... І ДАКЛАДНА НЕ ЎЗБРОЕНАМУ ЧУЖЫНЦУ.
ЯКАЯ Ў ВАС ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ ВА ЎСІМ ГЭТЫМ? НА КАГО ВЫ ПРАЦУЕЦЕ?


РАСТЛУМАЧУ ПА ДАРОЗЕ Ў АЭРАПОРТ.
ВАМ НЕБЯСПЕЧНА ТУТ ЗАСТАВАЦЦА, ФРОЗАН. КАЛІ Ў МЯНЕ АТРЫМАЛАСЯ ВАС ЗНАЙСЦІ, ТО ІНШЫЯ...


BLAM! BLAM! BLAM!


НЕЕЕЕЕ!


قف
قف






НЯ ТРЭБА!
ПРАШУ ВАС! БОЛЬШ НІКОМУ НЯ ТРЭБА ПАМІРАЦЬ!


РРААААХ!


БЛ*!
УМФ.


ЧОРТ!


ПРАКЛЯЦЦЕ!


ГРУПА КАЛПЕР, ГЭТА... ГЭТА АГЕНТ 355.
ПАВЕДАМІЦЕ ПРЭЗІДЭНТУ, ШТО АТРЫМАЕЦЦА... НЕВЯЛІКАЯ ЗАТРЫМКА.


Я НЕ БАЮСЯ СВЕТУ...
Я БАЮСЯ СВЕТУ БЕЗ ЦЯБЕ.


НІЧОГА САБЕ!
ЗДАЕЦЦА ТЫ ВІСЕЎ ГАЛАВОЙ УНІЗ ВЕЛЬМІ ДОЎГА, ДЗЕТКА.


Я СУР'ЁЗНА, БЭТ. Я НА САМОЙ СПРАВЕ АДЧУВАЮ ПУСТЭЧУ, КАЛІ ТЫ НЯ ПОБАЧ.
Я ВЕДАЮ. Я ТАКСАМА СУМУЮ БЕЗ ЦЯБЕ, ЁРЫК.
Я ЯКРАЗ УСПАМІНАЛА ТОЙ РАЗ, КАЛІ МЫ БЫЛІ Ў ЦЯБЕ НА ДАХУ, ПАД ДАЖДЖОМ...


ТЫ – МОЙ ЛЕПШЫ СЯБР, БЭТ. ТЫ ЦУДОЎНАЯ І СМЕШНАЯ, І ТВОЙ ЛЮБІМЫ ФІЛЬМ "РОСТАНЬ МІЛЕРА". Я НАВАТ І НЕ ПАДАЗРАВАЎ, ШТО ІСНУЕ ТАКАЯ ДЗЯЎЧЫНА, ЯК ТЫ.
АЛЕ СПРАВА НЯ ТОЛЬКІ Ў ГЭТЫМ! У СЭНСЕ, БЕЗУМОЎНА, Я СУМУЮ БЕЗ ЦЯБЕ, АЛЕ...


ТЫ РОБІШ МЯНЕ ЛЕПЕЙ, РАЗУМНЕЙ, АДВАЖНЕЙ, І Я НЕ ЖАДАЮ...
ЁРЫК, ПАЧАКАЙ.
ПЕРШ ЧЫМ ТЫ СКАЖАШ ШТО-НЕБУДЗЬ, ЁСЦЬ... ЁСЦЬ ШТОСЬЦІ, ШТО ТЫ ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ.




**Бостан, Масачусетс.
Сем хвілін таму.**

ПРЫЧЫМ, ЗАРАЗ ЖА.
УСЁ БУДЗЕ ДОБРА, МЭМ.
ПРОСТА РАСЛАБЦЕСЯ.




НЕ ТУРБУЙЦЕСЯ, ДОК. ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ГЭТА ПРОСТА СХВАТКІ БРЭКСТАНА-ХІКСА.
Я ЗАЎПЭЎНІВАЮ ВАС, ГЭТЫЯ СХВАТКІ **САПРАЎДНЫЯ**.
ДОБРА. ПАБАЧЫМ. ХТО ВАШ УРАЧ?

У МЯНЕ ЯГО НЯМА.
ШТО?
У ВАС ТРЭЦІ ТРЫМЕСТР І ВЫ ЯШЧЭ НІ РАЗУ НЯ БАЧЫЛІ ЎРАЧА?

МАЙКЛ, КАЛІ ЛАСКА.
НЕВЯЛІКІ САКРЭТ ПАМІЖ ДОКТАРАМ І ПАЦЫЕНТАМ...

СУНІЛ ЗАБЯСПЕЧВАЎ ПЕРАДРОДАВАЕ ДА-ГЛЯДАННЕ І ВЫКОНВАЎ ПАТРЭБНЫЯ ТЭСТЫ.
ЁН... ЁН БАЦЬКА?

НЕ, ЁН МОЙ ПАМОЧНІК ПА ДАСЛЕДНІЦКАЙ ПРАЦЫ.
**БАЦЬКА - Я.**


Я НЕ... Я НЕ РАЗУМЕЮ...
ВЫ Ж...


ЯКОГА ЛЯСУНА! ВЫ Ж ЖАРТУЕЦЕ, ТАК? ВЫ... ВЫ Ж НЕ НА САМОЙ СПРАВЕ ВЫНОШВАЕЦЕ СВАЙГО КЛОНА?
ТАК І ЁСЦЬ.
АЛЕ... ЯК? ЧАМУ?


ЦІ ЁСЦЬ ТАКАЯ МАГЧЫМАСЦЬ ДЛЯ МЯНЕ, ЭЭЭЭ, РАСТЛУМАЧЫЦЬ УСЁ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВЫ ПРЫМЕЦЕ РОДЫ?


Я НЕ МАГУ. У СЭНСЕ... КАЛІ ВЫ НЯ ХЛУСІЦЕ, ГЭТА НАПЭЎНА НЕЗАКОННА.
У ТАКІМ ВЫПАДКУ ВЫ МОЖАЦЕ ПАВЕДАМІЦЬ УЛАДАМ... ЦІ ДАПАМАГЧЫ ВЫРАТАВАЦЬ ЖЫЦЦЁ ГЭТАМУ ДЗІЦЯЦІ.




ДОБРА.
АЛЕ МЫ НЯ МОЖАМ ЗРАБІЦЬ ГЭТА ТУТ...




Бостан, Масачусетс.
Чатыры хвіліны таму.










ГЭЙ, ДЖО! ТЫ ТАМ?
ТРУБА КЛІЧА, ХІРОЎ!
НУ, КАЛІ ПРАФЕСАР ЖАДАЎ, КАБ ЯГО ДЗЕЦІ КАХАЛІ ЯГО, ЯМУ НЯ ТРЭБА БЫЛО НАЗЫВАЦЬ ІХ ТАКІМІ НЕДАРЭЧНЫМІ ІМЁНАМІ... ДЫК Я ЖАРТУЮ! БЫВАЙ, МАЦІ!


НАЦЯГВАЙ ПОРТКІ, БРАТКА! ТЫ НЯ ЧУЎ МАРКІТАВАНЫ СІГНАЛ ТРЫВОГІ? У НАС ВЫЕЗД У РАЁН ПРЫСТАНІ.
НУ НАРЭШЦЕ. ЦЭЛАЯ ВЕЧНАСЦЬ ПРАЙШЛА З ТАГО ЧАСУ, ЯК У НАС БЫЛО ХОЦЬ ШТОСЬЦІ АКРАМЯ ІЛЖЫВЫХ ВЫКЛІКАЎ З БОМБАМІ.


О, ПРЫВІТАННІ, БРАЎН. ПРАБАЧ, ШТО ПЕРАПЫНІЎ ШЛЮБНЫЯ ГУЛЬНІ. ТЫ НЯ СУПРАЦЬ, КАЛІ Я ЎКРАДУ ТВАЙГО ХЛОПЦА НА ЗАДАННЕ?
НІЧОГА, ЛЭРЫ. ДАПАМОГА ПАРАМЕДЫКАЎ НЕ ПАТРАБУЕЦЦА?
ПАКУЛЬ НЕ, АКРУГОВЫЯ ЎЖО ЗАЙМАЮЦЦА ГЭТЫМ. СУР'ЁЗНЫ ПАЖАР НА ХІМЗАВОДЗЕ, АЛЕ КАЖУЦЬ, ШТО ЎСІХ ПАСПЕЛІ ВЫВЕСЦІ З БУДЫНКА.
НУ... ШТО... ЗА... САМАДАЙКА.
ЦІКАВА, "ЗІРОЎ" УЖО ПАСПЕЛА ПАМАРКІТАВАЦЦА З КОЖНЫМ ПАЖАРНІКАМ З ЛЕТАШНЯГА КАЛЕНДАРА?
МАГЧЫМА. АЛЕ ЯНА СЦВЯРДЖАЕ, ШТО ГЭТЫ ХЛОПЕЦ "ТОЙ САМЫ". СПАДЗЯЮСЯ ЯНА НЕ ПАДЧЭПІЦЬ АД ЯГО ГЕРПЕС...


БУДЗЬ АСЦЯРОЖНЫ З ГЭТЫМ ТАКСІЧНЫМ ДЫМАМ, КРАСУНЧЫК.
А ТЫ ЗАХОЎВАЙ ЦЕПЛЫНЮ ГЭТАГА ФУРГОНЧЫКА ДЛЯ МЯНЕ. Я ЎМОМАНТ. ТУДЫ І НАЗАД.


УФФ, НЯ САМЫЯ РАМАНТЫЧНЫЯ СЛОВЫ! ПРОСТА ВЯРТАЙСЯ ЦЭЛЫМ І ЗДАРОВЫМ, ДОБРА, ДЖО?


ПАЧАКАЙ!
КАЛІ ЛАСКА, Я ВЕДАЮ, ТАБЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА, КАЛІ Я РАБЛЮСЯ ТАКІМ СУР'ЁЗНЫМ, АЛЕ ПРОСТА ДАЗВОЛЬ МНЕ СКАЗАЦЬ ДА КАНЦА. ГЭТА ВАЖНА...


Я ЗМАНІЎ ТАБЕ, БЭТ.
ЗМАНІЎ?
НАКОНТ ЧАГО?


Я НЕ АДДАЎ ПАЛОВУ СВАЁЙ ГАТОЎКІ КАРУМПАВАНАМУ КОПУ Ў ПАРКУ.
Я ВЫДАТКАВАЎ ЯЕ.
НА... НА ШТО?
НІЧОГА АСАБЛІВАГА, ПРОСТА МАЛЕНЬКАЯ ЗАБАЎКА, ЯКУЮ Я ЗНАЙШОЎ У ТОЙ КРАМЦЫ МАГІІ... АЛЕ ГЭТА МЕНАВІТА ТОЕ, З-ЗА ЧАГО Я ТАК НЕРВАВАЎСЯ.


ПАСЛУХАЙ, Я ВЕДАЮ, ШТО НЕВЕРАГОДНА НЕДАРЭЧНА РАБІЦЬ ГЭТА ПА ТЭЛЕФОНЕ, АЛЕ Ў МЯНЕ НЕ СПЫНЯЮЦЦА КАШМАРЫ ПРА ТОЕ, ЯК ЦЯБЕ З'ЯДАЕ ДЫНГА, ПЕРШ ЧЫМ Я ПАСПЕЮ СПЫТАЦЬ...
ДЫК ВОСЬ, ПРА ШТО Я...


Бруклін. Нью-Ёрк. Пяць секунд таму
БЭТ ДЭВІЛ…ТЫ ВЫЙДЗЕШ ЗА МЯНЕ ЗАМУЖ?

Вашынгтон. Чатыры секунды таму
ПРАДСТАЎНІК БРАЎН? ТОЛЬКІ ШТО ТЭЛЕФАНАВАЎ ВАШ МУЖ. ЁН СПАЗНІЦЦА НА ВЕЧАРЫНУ Ў ГОНАР СВАЙГО ДНЯ НАРАДЖЭННЯ СЁННЯ.
МУЖЧЫНЫ. ЯК З ВАМІ НАОГУЛ МОЖНА МЕЦЬ СПРАВУ…

Наблус. Заходні бераг. Тры секунды таму
ДЫК, ЭЭ, КАЛІ СКОНЧЫЦЦА ВАША ЗМЕНА?
ЦІХА. ВЫ ГЭТА ЧУЛІ?
ЗДАЕЦЦА, ГЭТА АРТАБСТРЭЛ…

6500 метраў над Іярданам. Дзве секунды таму
ТРЫ ТРУПА ЗА АДЗІН МАЛЕНЬКІ АРТЭФАКТ, А, 355? ТЫ НАЎПРОСТ РОБІШСЯ ДЗЁЎБАНАЙ ЛАРАЙ КРОФТ.
ПРОСТА ЗАБІ ЗЯПУ І ВЫЦЯГВАЙ НАС АДСЮЛЬ, 1033.
НЕ ГРУЗІСЯ. МЫ ЯКРАЗ УВАХОДЗІМ У САЎДАЎСКУЮ ПАВЕТРАНУЮ ПРАСТОРУ…

ТАК… ТАК НЕЛЬГА.
Бостан, Масачусетс. Адна секунда таму.

Зараз


КЭХХХХ.
ДЭРЫН?


ГХА. ГХА. ГХА.


ХУЭЭЭЭЭЭ.


ДЖО?
ДЖОЙ?
ШТО, ЧОРТ ДЗЯРЫ, АДБЫВАЕЦЦА?


Токіа. Японія.
Фондавая
біржа


Ватыкан.
Сабор
Св.Пятра


Кінг Хіл.
Айдаха
ТАТА? ЗДАЕЦЦА БАК ЗАХВАРЭЎ...


Амстэрдам.
Галандыя
VIDEOS
EROTIQUE
SEX


Сан Паўлу.
Бразілія
DELLACRUZ
VIVA!


Джонсан.
Тэхас.
Касмічны
цэнтр
MISSION CONTROL
Х'ЮСТАН, ПРЫЁМ, ЯК ЧУТКА?
ENVIORMENTAL


С.Пецярбург.
Расія.
Атамная
электра-
станцыя.
BEEP EEP EEP EEP EPP EEP EEP EEP EEP


Момбаса. Кенія.


ТРЫВОГА, ТРЫВОГА! КУДЫ ЎСЕ ПАДЗЯВАЛІСЯ?


ТРЫМАЙСЯ, СЫНОК. З ТАБОЙ УСЁ БУДЗЕ ДОБРА...


ПРАШУ ЦЯБЕ, НЕ.
КАЛІ ЛАСКА! НЕ, НЕ, НЕ...


О, НЕ.
ГЭТА Я... Я ВІНАВАТА.


АЛТЭР, НАМ ТРЭБА ПРЫНЯЦЬ АТРАПІН!
АДСТАВІЦЬ, САЛДАТ. ГЭТА НЕ НЯРВОВА-ПАРАЛІТЫЧНЫ ГАЗ. ГЭТА ДЗЕЙНІЧАЕ ТОЛЬКІ НА МУЖЧЫН.
* STAND DOWN, SOLDIER. THIS CAN'T BE NERVE GAS IT'S JUST THE MEN...


УСЕ МУЖЧЫНЫ МЁРТВЫЯ.


Сардэчна запрашаем у свет без мужчын
Улетку 2002 года, эпідэмія невядомага паходжання знішчыла кожны сперматазоід, кожны плод, усіх паўнавартасных млекакормячых з Y-храмасомай (за выяўным выключэннем аднаго маладога хлопца і яго звярка мужчынскага полу).
Гэты «гендэрацыд» адначасова знішчыў 48% насельніцтва планеты, гэта прыблізна 2,9 мільярда чалавек. 495 з 500 самых багатых людзей свету мёртвыя, таксама як і 99% уладальнікаў нерухомасці ва ўсім свеце.
У адных толькі ЗША больш за 95% усіх пілотаў камерцыйных рэйсаў, кіроўцаў грузавікоў і камандзіраў караблёў памерлі... таксама як і 92% бязлітасных злачынцаў.
Па ўсім свеце 99% усіх механікаў, электрыкаў, будаўнікоў сталі нябожчыкамі... У той жа час, 51% ад планетарнай аграрнай працоўнай сілы засталіся жывымі.
Арміі 14 краін, уключаючы Іспанію і Германію, мелі ў сваіх шэрагах салдатаў жаночага полу, якія служылі ў наземных войсках. Ніводная з 200000 жанчын-салдатаў з арміі ЗША не ўдзельнічала ў наземных войсках. Аўстралія, Нарвегія і Швецыя - адзіныя краіны, дзе жанчыны маглі служыць на падводных лодках.
У Ізраілі ўсе жанчыны ва ўзросце ад 18 да 26 гадоў праходзілі прымусовую вайсковую службу ў сілах абароны Ізраіля як мінімум год і дзевяць месяцаў. Да эпідэміі прынамсі тры палестынскіх смяротніка былі жанчынамі.
Ва ўсім свеце 85% усіх дзяржслужачых мёртвыя... таксама як 100% каталіцкіх святароў, мусульманскіх імамаў і артадаксальных яўрэйскіх равінаў.
BANG
Алё?
БЕЗ МУЖЧЫН
UNMANNED
Браян К.Вон
Пія Гуэра
Жазэ Марзан, Клем Робінс, Пэм Рамбо, Дж. Дж. Джонс,
Захарыя Раў, Хэйдзі МакДоналд

Вашынгтон.
Праз два месяцы.




АЙ.


БОЖА!
ДАМАЧКА, З ВАМІ ЎСЁ ДОБРА?


ТАК, ТАК... УСЁ ДОБРА.
ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ? ШТО Ў ВАС З ГОЛАСАМ?
ПРОСТА... ПРАСТУДА. НАДЫХАЛАСЯ ХАЛОДНЫМ ПАВЕТРАМ...


МНЕ ТАК ШКАДА.
Я ТОЛЬКІ ПАЧАЛА КІРАВАЦЬ ГЭТАЙ ШТУКАЙ І ЎСЁ ЯШЧЭ НЕ СПРАЎЛЯЮСЯ З ТОРМАЗАМ. ВЕДАЕЦЕ, ГЭТА ЗУСІМ НЯ ЛЁГКА. НЯ ТОЕ, ШТО МАЯ СТАРАЯ «МІЯТА».
КАЛІ Б НЯ ВАША САМААХВЯРНАЯ ЖВАВАСЦЬ У СТЫЛІ ЛЮСІ ЛОЎРЭС, Я Б, НАПЭЎНА, УЖО...


ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?
ВОСЬ ЛАЙНО!

# UNMANNED CHAPTER TWO

## БЕЗ МУЖЧЫН частка другая




А БО-ЖУХНА. ЯНЫ Ж УСЕ…
УСЕ МАЕ, ТАК.
АЛЕ КАЛІ ТЫ МНЕ ЗАРАЗ ДАПАМОЖАШ ЗАКІНУЦЬ ГЭТЫХ ХЛОПЦАЎ НАЗАД У КУЗАЎ… Я, МАБЫЦЬ, І ПАДЗЯЛЮСЯ З ТАБОЙ ПРЫБЫТКАМ.


ГЭТА ТВАЯ ПРАЦА?
МОЖАШ ВЕРЫЦЬ, А МОЖАШ НЯ ВЕ-РЫЦЬ. АПЫНАЕЦ-ЦА, НАВАКОЛ ЯШЧЭ ШМАТ ВОСЬ ТАКІХ САМОТНЫХ ХЛОПЦАЎ. ГНІЮЦЬ У СВАІХ КВА-ТЭРАХ І ПСУЮЦЬ ПАВЕТРА Ў БІЗНЕС-ЦЕНТРАХ.
УСЕ ВЕЛЬМІ ХВАЛЮЮЦЦА НА-КОНТ БОЛЬКАЎ І ЎСЯКАГА ТАКО-ГА, ТАКІМ ЧЫНАМ «CDC» ПЛАЦЯЦЬ МНЕ БЛЯШАН-КУ КАНСЕРВАЎ ЗА КОЖНЫ ТРУП. АДЗІНАЯ ПРАЦА, ЯКУЮ Я ЗМАГЛА ЗНАЙСЦІ…


ЛЯСНУЦЦА, ПРАЎДА? Я ПРА-ЦАВАЛА МАДЭЛ-ЛЮ Ў АГЕНЦТВЕ «ВІЛЬГЕЛЬМІНА». А ЦЯПЕР Я, БЛЯХА, ЗБІРАЮ СМЕЦЦЕ.
ГОРШ ЗА ЎСЁ ТОЕ, ШТО Я ВЫДАТКА-ВАЛА ТРЫ ШТУКІ НА ПАВЕЛІЧЭННЕ БУФЯРОЎ ЯКРАЗ ПЕРАД ТЫМ, ЯК УСЁ ГЭТА ЗДАРЫЛА-СЯ. І ШТО ЦЯПЕР З ГЭТЫМІ ЦЫЦКАМІ РАБІЦЬ?
А ШТО ВЫ РОБІЦЕ З ГЭТЫМІ ЦЕЛАМІ?


ВЯЗУ ІХ У КЕНЭДЗІ.
ЯНЫ ПЕРАТВАРЫЛІ СТА-ДЫЁН У АДЗІН З… ЯК ІХ… КРЭМАТОРЫЯЎ. УСЁ НАР-МАЛЬНА? ЗРАБІ НЕКАЛЬКІ ГЛЫБОКІХ УДЫХАЎ.


ВЕДАЕШ, ТАБЕ ЗУСІМ НЕ АБАВЯЗ-КОВА НАСІЦЬ ГЭТУ МАСКУ.
КАЛІ Б ТОЕ, ШТО ЗАБІЛА ІХ, ДЗЕЙНІЧАЛА І НА НАС… МЫ Б УЖО ДАЎНО БЫЛІ Б МЕРЦВЯКАМІ.


САПРАЎДЫ? НУ… ЛЕПЕЙ ПА-ПАРЫЦЦА, ЧЫМ ПОТЫМ ШКАДА-ВАЦЬ…


А АДКУЛЬ ГЭТА Ў ЦЯБЕ?


ГЭТА? ЗНЯЛА З МЁРТВАГА КОПА МЕСЯЦ ТАМУ.
ГЭТА АДБЫЛОСЯ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЗАБІЛІ МАЙГО ХЛОПЦА.
ПАЧАКАЙ, ШТО ТЫ СКАЗАЛА?


АГА, ЯНА БЫЛА ТРАНСВЕСТЫТАМ. МЫ СУСТРЭЛІСЯ НА АДНЫХ З ПАХАВАННЯЎ.
АЛЕ, ВІДАЦЬ, АМАЗОНКІ ПАЛІЧЫЛІ ЯЕ ЗА САПРАЎДНАГА МУЖЫКА, ТАМУ ШТО ЯНЫ ЗАБІЛІ ЯЕ, НЕ ВАГАЮЧЫСЯ НІ СЕКУНДЫ.
АМАЗОНКІ?
ГЭТА ТЫЯ РАЗБОЙНІЦЫ, ЯКІЯ СПАЛІЛІ ЎСЕ БАНКІ СПЕРМЫ?


ПРА ГЭТА Я НІЧОГА НЯ ВЕДАЮ.
ГЭТА ЗВАР'ЯЦЕЛЫЯ СУЧКІ. ЯНЫ ЛІЧАЦЬ, ШТО БОГ ЖАДАЎ, КАБ УСЕ МУЖЧЫНЫ ПАМЕРЛІ. ХОЦЬ І ЎСЕ ЛЮДЗІ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ГЭТА ЗРАБІЛІ АРАБЫ.
НУ, Я Б НЯ БЫЎ ТАК УПЭЎНЕНЫ Ў ТЫМ, ШТО МЕНАВІТА...


ГЭЙ, А ШТО ГЭТА Ў КЛЕТЦЫ?
САБАКА ЦІ КОШКА?
ЭЭ, КАЛІ ЛАСКА, ЛЕПЕЙ НЕ ЧАПАЦЬ...


РАССЛАБСЯ, Я ЯЕ НЕ ПАКУ-САЮ. Я АБАЖАЮ ЖЫВЁЛ.
У МЯНЕ БЫЛО ТРЫ ШЧАНЮКА: ФРЭНК, ДЗІН І СЭМІ. АЛЕ ЯНЫ ПАМЕРЛІ. ТАБЕ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО Ў ЦЯБЕ ДЗЯЎЧЫНКА...


...МАЛПА?


ТРАСЦА ТАБЕ Ў БОК, АМПЕР-СЭНД!
СПЫНІСЯ! ЗЛЕЗЬ ПРЭЧ З МАЕЙ...


...
ПРЫВІ-ТАНЬКІ.

# Александрыя, Вірджынія.
# Сёння раней.















ПРА ШТО ВЫ КАЖАЦЕ?
ЯНЫ ЎСЕ БЫЛІ МУЖЧЫ-НАМІ, МЭМ.
ВІЦЭ-ПРЭЗІДЭНТ, СПІКЕР ПАЛАТЫ, ПРЭЗІДЭНТ АД СЕНАТА, ДЗЯЖСАКРАТАР, МІНІСТРЫ ФІНАНСАЎ І АБАРОНЫ...

...І ГЕНЕРАЛЬНЫ ПРАКУРОР ТАКСАМА. ТАК, Я ЗНАЁМА З ЛАНЦУЖКОМ ПРАВА НА СПАДЧЫНУ.
АЛЕ ЯШЧЭ ІСНУЕ ШМАТ ПАСАД З БОЛЬШЫМ ПРЫЯРЫ-ТЭТАМ! А ЯК НАКОНТ МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ? КАНСТЫ-ТУЦЫЯ ВЫЗНАЧАЕ ЯЕ, ЯК НАСТУПНУЮ ПЕРАЕМНІЦУ!
БАЮСЯ, ШТО МІНІСТР РЫЧБЕРГ ЗАГІНУЛА Ў АДНОЙ З АВАРЫЙ, МАДАМ ПРЭЗІДЭНТ.

ДЫ НЕ НА-ЗЫВАЙЦЕ ВЫ МЯНЕ ТАК!
ВЫ НЯ МОЖАЦЕ ПРАЦЯГВАЦЬ ХАВАЦЦА, МЭМ. ВЫ САМАЯ ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНАЯ ЖАНЧЫ-НА Ў АМЕРЫЦЫ НА ГЭТЫ МО-МАНТ... А ВАШ УРАД НАВАТ НЯ ВЕДАЕ, ШТО ВЫ ЖЫВАЯ.
ВОСЬ І ДОБРА! Я ЎСЯГО ТОЛЬКІ... ДУРНАЯ ДЗЯЎЧЫНА З ФЕРМЫ, ЯКАЯ СУМУЕ ПА СВАЙМУ БЕСКА-РЫСНАМУ БЫЛОМУ. Я НІ ГРАМА НЯ КЕМЛЮ Ў ПРЭЗІДЭНЦТВЕ!

НЕ, МАРГАРЭТ, КЕМЛІЦЕ.
Я ВЕДАЮ ПРА ВАС БОЛЬШ, ЧЫМ ВАМ ЗДАЕЦ-ЦА. Я ПЕРААДОЛЕЛА ВЕЛЬМІ ВЯЛІКУЮ АДЛЕГЛАСЦЬ, КАБ ЗНАЙСЦІ ВАС, ТАМУ ШТО Я ВЕРУ Ў ВАС. Я ЎПЭЎНЕНА, ШТО ВЫ МЕНАВІТА ТОЙ САМЫ ЛІДАР, ЯКІ НАМ ЗАРАЗ ПАТРЭБНЫ.
КАЛІ ВЫ ПРЫМАЛІ ПАСАДУ, ТО ПРЫСЯГНУЛІ СЛУЖЫЦЬ ГЭТАЙ ЗЯМЛІ.

ЦІ ВЫ ЎЖО ПЕРА-ДУМАЛІ?


ВОСЬ
ГЭТА
ФАНТА-СТЫКА!

ТЫ НАОГУЛ ХТО?
МЯНЕ ЗАВУЦЬ ЁРЫК.

ЯК У ЦЯБЕ АТРЫМА-ЛАСЯ...?
САМ НЯ ВЕДАЮ.
КАЛІ ЛАСКА, Я ПРОСТА СПРАБУЮ ЗНАЙСЦІ СВАЮ...

ГЭЙ!

АА, ШТО... ШТО Ж ТЫ...?
ПРОСТА НЕРЭАЛЬНА.
САПРАЎДНЫ МУЖЫК...

...НУ, МАБЫЦЬ НЕ ЗУСІМ.


НУ, ДЗЯКУЙ ТАБЕ.
ВАЛТУЗНЯ З ГНІЛЫМІ ТРУПАМІ ПРЫМУШАЮЦЬ МЯНЕ СКУРЧЫВАЦЦА, ЗРАЗУМЕЛА? ТЫ НЯ МОЖАШ ЗАЎСЁДЫ ЧАКАЦЬ АД ХЛОПЦА...


ЗАЛАЗЬ У ГРУЗАВІК.


ШТО?!
ТЫ ШТО, ЗБІРАЕШСЯ МЯНЕ ЗГВАЛЦІЦЬ?


НЯ ЛІСЛІЎ САБЕ.
ТЫ НЯ МОЙ ТЫПАЖ.
АА.
У ТАКІМ ВЫПАДКУ... ШТО ТЫ БУДЗЕШ РАБІЦЬ?


ЗБІРАЮСЯ ПРАДАЦЬ ЦЯБЕ.


ШТО?! КАМУ ГЭТА ТЫ ЖАДАЕШ МЯНЕ ЗБЫЦЬ?
«ЗБЫЦЬ»?
ТЫ ХТО, БАТАН-ЛІНГВІСТ?
WASTE DISPOSAL


НУ, УВОГУЛЕ...
НА САМОЙ СПРАВЕ, МНЕ ФІЯЛЕТАВА.
БЯЗ КРЫЎДЫ, АЛЕ Я НЯ ЕЛА ТЫДЗЕНЬ, А Ў ХЭГЕРТАНЕ ЁСЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ НАПЭЎНА ДАДУЦЬ ЗА ЦЯБЕ СТОЛЬКІ ЖРАТВЫ, ШТО МНЕ ДА КАНЦА ЖЫЦЦЯ ХОПІЦЬ.


НЕ ТУРБУЙСЯ, Я АДВЯЗУ ЦЯБЕ ТУДЫ, ЯК ТОЛЬКІ СКОНЧУ ЗАГРУЖАЦЬ АСТАТНІХ ХЛОПЦАЎ!
ЛІЧУ, ШТО КАЛІ ТЫ ВЫЖЫЎ, ДЗЕСЬЦІ ПАВІННЫ БЫЦЬ І ІНШЫЯ ХЛОПЦЫ.


А Я ЖАДАЮ ПРАДАЦЬ ЦЯБЕ ЯК МАГА ХУТЧЭЙ, ПАКУЛЬ ЯШЧЭ ЯКІ-НЕБУДЗЬ ЗАГАДКАВЫ ПЕРСАНАЖ НЕ...


...ЗАЯВІЎСЯ.




DUSK-TO-DAWN CURFEW; STRICTLY ENFORCED
ТАБЕ ВЕЛЬМІ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО ГЭТА НАРУЧНІКІ МАРКІ «ХАЯТТ», МАЛЕНЬКІ ТЫ КУСОК ЛАЙНА.


КАЛІ Б ГЭТА БЫЛІ «ДАРБІ», ДЗЯЎЧЫНА ЗАРАЗ УЖО Б ПРАДАВАЛА НАС У ЯКІ-НЕБУДЗЬ БАРДЭЛЬ.
ЧЫЫЫЫТТ
НЕ, ХАРЧАВАЦЬ ЯНЫ Б НАС НЯ СТАЛІ. ЯНЫ Б НАКАРМІЛІ ТОЛЬКІ МЯНЕ. ЦЯБЕ Б ЯНЫ ЗАСМАЖЫЛІ.


АА ЦІІК ЦІІК
ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, Я ТАК-САМА ПАМІРАЮ АД ГОЛАДУ.
НЯДЗІЎНА, УЛІЧВАЮЧЫ КОЛЬКІ ЧАСУ Я ПРАВОДЖУ З НЕЙКАЙ СМЯР-ДЗЮЧАЙ МАЛПАЙ.
АЛЕ З ТРА-ПЕЗАЙ ТРЭБА ПАЧАКАЦЬ...


...І ДЛЯ ПАЧАТКУ ЗНАЙСЦІ МАЦІ.


ПРАДСТАЎНІК БРАЎН?


БОЖА, ДАЯНА!
Я ЎЖО ЗБІРАЛАСЯ СКАРЫСТАЦЬ НЕКАЛЬКІ ПРЫЁМАЎ, ЯКІМ Я НАВУЧЫЛАСЯ ЗА ТРЫ ГАДЫ ЗАНЯТКАЎ ТАЙ-БО.
EXIT
ПРАБАЧЦЕ, МЭМ, Я НЕ ЖАДАЛА ВАС НАПАЛОХАЦЬ. Я ПРОСТА ВЫРАШЫЛА ЗРАБІЦЬ АПОШНІ АБХОД ГЭТАЙ НОЧЧУ.


МАБЫЦЬ МНЕ ПРАВЕСЦІ ВАС ДАДОМУ?
ДЗЯКУЙ, НЯ ТРЭБА.
Я ПЛАНУЮ СЁННЯ ЗАСТАЦЦА. МЫ З ІНШЫМІ ЧЛЕНАМІ КАНГРЭСА ЎСЁ ЯШЧЭ СПРАБУЕМ ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМУ НОВАГА КІРАЎНІКА ДЗЯРЖАВЫ, КАБ ВАМ, ДЗЯЎЧЫНКІ, БЫЛО КАГО ВАРТАВАЦЬ.


ДЖЭН, ВЫ ЎЖО ТРЫ ДНІ НЕ ПАКІДАЛІ БЕЛЫ ДОМ.
НУ, ХІБА МОЖНА ВІНАВАЦІЦЬ МЯНЕ Ў ГЭТЫМ? НАВАТ БЕЗ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ, ГЭТА МЕСЦА ЗАСТАЕЦЦА ПАЛАЦАМ У ПАРАЎНАННІ З МАІМ МІНУЛЫМ ОФІСАМ У РЭЙБЕРНЕ.
УСЁ ДОБРА, ДАЯНА. СУР'ЁЗНА, ТАБЕ ТРЭБА ПАЙСЦІ ДАДОМУ. ДА СВАІХ МАЛЫШАК.


ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ?
СПЕЦАГЕНТ ФЭРЫС СЁННЯ ДЗЯЖУРЫЦЬ У ЗАХОДНІМ КРЫЛЕ. КАЛІ ВАМ ШТО-НЕБУДЗЬ СПАТРЭБІЦЦА...
ДАБРАНАЧ, ДАЯНА.






МДЭЭ, СЛУЖБА БЯСПЕКІ БЯССПРЭЧНА ЗГУБІЛА ХВАТКУ ПАСЛЯ СМЕРЦІ ЎСІХ МУЖ...

ЧЫЫЫЫЫЫЫН!


НУ ВОСЬ, ЗНОЎ. АЙ!


ЁРЫК?


ПРІВІ-ТАННЕ, МАМ.
ТЫ...
ТЫ...


Я МАЛІЛАСЯ КОЖНУЮ СЕКУНДУ, ЁРЫК.
КОЖНЫ МІГ Я МАЛІЛАСЯ ЗА ЦЯБЕ. АЛЕ Я НІКОЛІ НЯ ДУМАЛА, ШТО НА САМОЙ СПРАВЕ...
МНЕ ТАК ШКАДА. ПРАЙШЛІ ТЫДНІ, ПЕРШ ЧЫМ У МЯНЕ АТРЫМАЛАСЯ ВЫБРАЦЦА З НЬЮ-ЁРКА.


А ТАМ ЯШЧЭ...?
ЁСЦЬ ТАКІЯ ЯК Я?
НЯ ВЕДАЮ. НАЎРАД. КАЛІ ТОЛЬКІ ТАТА...


КАЛІ ТОЛЬКІ ЁН УСЁ ЯШЧЭ...?




ЧОРТ.


DAMN.


ЧООРТ!


ЧООРТ!


Я ДУМАЎ, ДУМАЎ МАБЫЦЬ ГЭТА ГЕНЕТЫЧНАЕ.
ДУМАЎ, ШТО ТОЕ Ж, ШТО НЕ ДАЛО МНЕ ПАМЕРЦІ, МАГЛО Б...
Я...


Я ТАК І НЕ ПАТЭЛЕФАНАВАЎ ЯМУ.
ГЭТА БЫЎ ЯГО ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ, А Я ТАК І НЕ ПАТЭЛЕФАНАВАЎ ЯМУ.


ХЛОПЧЫК МОЙ...
А ХІРОЎ?
ШТО НАКОНТ ХІРОЎ?


Я НЕ...
Я СПАДЗЯВАЛАСЯ, МАБЫЦЬ ТЫ ШТО-НЕБУДЗЬ ВЕДАЕШ ПРА СЯСТРУ.
НУ ТАК. ТЭЛЕФОННАЯ СУВЯЗЬ ЛЯЖЫЦЬ МОЦНА І ПАЎСЮЛЬ. АЛЕ... Я ЎПЭЎНЕНЫ, З ЁЙ УСЁ ДОБРА, ЯНА ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ...


А ГЭТА ШТО ЯШЧЭ ТАКОЕ?!
А... НЕ ТУРБУЙСЯ. ГЭТА АМПЕРСЭНД. Я ВЫРАШЫЎ УЗЯЦЬ ЯГО НА АБУЧЭННЕ, КАЛІ ТЫ СКАЗАЛА МНЕ ЗАНЯЦЦА ЧЫМСЬЦІ КАРЫСНЫМ. ЁН МАЛПА-ПАМОЧНІК. ПА ІДЭІ...
«ЯГО»? АЛЕ... УСЕ МЛЕКАКОРМЯЧЫЯ З Y-ХРАМАСОМАЙ...


ЁРЫК, ЯК? ЯК УВОГУЛЕ ГЭТА МАГЧ..?
НАВАТ І НЕ ЎЯЎЛЯЮ.
УСЕ АСТАТНІЯ МУЖЧЫНЫ Ў МАЁЙ ХАЦЕ ПАМЕРЛІ. УСЕ МАЕ СЯБРЫ МУЖЧЫНСКАГА ПОЛУ ТАКСАМА. УСЕ ХЛОПЦЫ, ЯКІХ Я ВЕДАЎ... ГЭТА НЕВЫТЛУМАЧАЛЬНА.


АЛЕ Я ПАРАЗВАЖАЎ... МАБЫЦЬ ГЭТА ЯК-НЕБУДЗЬ ЗЛУЧАНА З ВОСЬ ГЭТЫМ КОЛЬЦАМ?
Я КУПІЎ ЯГО Ў КРАМЦЫ МАГІІ І ЗБІРАЎСЯ З ІМ ЗРАБІЦЬ ПРАПАНОВУ БЭТ ЯКРАЗ ПЕРАД ТЫМ, ЯК...
МАГІЧНАЕ КОЛЬЦА? ЁРЫК, НЯ БУДЗЬ ДУРНЕМ, ГЭТА НІЯКІМ ЧЫНАМ НЕ ТЛУМАЧЫЦЬ...


ТЫ СКАЗАЎ «ПРАПАНОВА»?


І... ШТО ЯНА АДКАЗАЛА?
«ТАК».


ВА ЎСЯЛЯКІМ ВЫПАДКУ, МНЕ ТАК ЗДАЕЦЦА. НАС РАЗ'ЯДНАЛІ, ПЕРШ ЧЫМ Я ПАСПЕЎ ПАЧУЦЬ АДКАЗ.
ТАМУ Я ЗБІРАЮСЯ Ў АЎСТРАЛІЮ... ДАВЕДАЦЦА АДКАЗ НА ПРАПАНОВУ.


ЯШЧЭ ЧАГО ВЫДУМАЎ!
ЁРЫК БРАЎН, ЦАЛКАМ МАГЧЫМА, ШТО ТЫ АПОШНІ МУЖЧЫНА НА ЗЯМЛІ! З ГЭТАГА ЧАСУ ТЫ АДКАЗНЫ ПЕРАД УСІМІ ЛЮДЗЬМІ!
АДКАЗНЫ? ШТО, ПЕРАНАСЯЛІЦЬ **ПЛАНЕТУ** ДЛЯ ЦЯБЕ?


ПАСЛУХАЙ, Я САПРАЎДЫ ЖАДАЮ ДАПАМАГЧЫ, МАЦІ. СЛОВА ГОНАРУ. МЕНАВІТА ТАМУ Я СПЯРША ПРЫЙШОЎ ДА ЦЯБЕ.
АЛЕ Я НЕ ЗБІРАЮСЯ СЯДЗЕЦЬ ТУТ ЯК... ЯК ЖАРАБЕЦ ДЛЯ ЎСЁЙ ГЭТАЙ ВЕЛІЗАРНАЙ КОЛЬКАСЦІ НЕЗНАЁМЫХ ЖАНЧЫН, ЯКІХ ТЫ ЖАДАЕШ, КАБ Я АСЕМЯНІЎ.


ТОЛЬКІ НЕ ТАДЫ, КАЛІ МАЯ КАХАНАЯ ДЗЕСЬЦІ ТАМ.


ЁРЫК, Я НЕ ЗБІРАЮСЯ ГАНДЛЯВАЦЬ ЦЕЛАМ РОДНАГА СЫНА!
Я НАЎПРОСТ ЛІЧУ, ШТО ТАБЕ ТРЭБА ЗАЙМАЦЦА СПРАВАМІ БОЛЬШ ВАЖНЫМІ, ЧЫМ УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ У ДЗІЎНЫМ КРЫЖОВЫМ ПАХОДЗЕ ДЗЕЛЯ КАХАННЯ.
НАПРЫКЛАД?


НУ, Я НАВАТ І НЯ ВЕДАЮ... МАБЫЦЬ ВЫРАТАВАЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА АД ВЫМІРАННЯ?
МЕНАВІТА ГЭТА Я І ЗБІРАЮСЯ РАБІЦЬ!
РАЗАМ З БЭТ.


ДАРАЖЭНЬКІ, ШТО Б ТАМ НЕ КАЗАЛІ ПРА АДАМА І ЕВУ, У ДЗВЮХ ЛЮДЗЕЙ ГЭТА НЕ АТРЫМАЕЦЦА.
ТАК...
ВЕДАЮ... АЛЕ ШТО МНЕ РАБІЦЬ У ТАКІМ ВЫПАДКУ, МАЦІ?


НЯ ЎПЭЎНЕНА... АЛЕ ЛІЧУ, ШТО ЯНА МОЖА ВЕДАЦЬ АДКАЗ.
ЯЕ ЗАВУЦЬ ДОКТАР ЭЛІСАН МАН, БІЯІНЖЫНЕР З БОСТАНА. ЯК ВІДАЦЬ, ЯНА ВЕДАЕ ПРА НЕПАЛАВУЮ РЭПРАДУКЦЫЮ БОЛЬШ, ЧЫМ ХТО-НЕБУДЗЬ ЯШЧЭ.
МЫ РАЗЛІЧВАЛІ, ШТО ЯНА ДАПАМОЖА НАМ СТВАРЫЦЬ НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ ЖАНЧЫН, АЛЕ КАЛІ ЯНА ЗРАЗУМЕЕ, ШТО ПРЫМУСІЛА ЦЯБЕ СУПРАЦІЎЛЯЦЦА ХВАРОБЕ...


ПАЧАКАЙ... ГУТАРКА ІДЗЕ ПРА КЛАНАВАННЕ? Я ЛІЧЫЎ, ШТО ТЫ ЗАЎСЁДЫ ІМКНУЛАСЯ АБВЯСЦІЦЬ ЯГО НЕЗАКОННЫМ.
ТАК І ЁСЦЬ.
АЛЕ ГЭТА ЎЖО ІНШЫ СВЕТ. НЯ ТОЙ, ШТО БЫЎ ДВА МЕСЯЦЫ ТАМУ.


НУ, Я Б СКАЗАЎ, ШТО ГЭТА НЕДААЦЭНКА...












НАШМА-А-Т ГОРШ.

Працяг будзе...
















Гэта рэдкі прыклад комікса з універсальным пасылам, і ён вельмі хутка наробіць шуму.
-AIN'T IT COOL NEWS

WE REMEMBER 9-11 SEPT 11 2001

VERTIGO

ISSUE 3
ЛІС 2002

БРАЯН К. **ВОН**
ПІЯ **ГУЭРА**
ЖАЗЭ **МАРЗАН**
АРЫЕНТАВАНА НА ДАРОСЛЫХ ЧЫТАЧОЎ

COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

comicsby.by
vertigocomics.com

Y – АПОШНІ МУЖЧЫНА #03
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

# Шаша «Інтэрстэйт 395», Вірджынія. Шэсць гадзін таму.












# UNMANNED CHAPTER THREE




## БЕЗ МУЖЧЫН частка трэцяя

**Белы дом.**
**Зараз.**

АДЫДЗІ ПРЭЧ АД АКНА, ЁРЫК!

ДЫ ХТО ГЭТА, КАБ ІХ ЧОРТ УЗЯЎ, НАС АБСТРЭЛЬВАЕ, МАЦІ? ТЭРАРЫСТЫ?

ГОРШ...




ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО НЯ РОБІЦЕ НІЯКІХ ПАСПЯХОВЫХ ВЫНІКАЎ, ПРАДСТАЎНІК? Я ПРА ТОЕ, ШТО НЯ КОЖНЫ ЧАЛАВЕК З ПІСТАЛЕТАМ – РЭСПУБЛІКАНЕЦ.
Я ЗНАЁМА З УСІМІ ГЭТЫМІ ЖАНЧЫНАМІ, ЁРЫК.
УСЕ ЯНЫ – ЖОНКІ КАНГРЭСМЭНАЎ.


СЛУХАЙЦЕ СЮДЫ! ГЭТА БЫЛІ ТОЛЬКІ ПАПЕРАДЖАЛЬНЫЯ СТРЭЛЫ!
МЫ НЕ ЖАДАЕМ, КАБ ХТО-НЕБУДЗЬ ПАПАКУТАВАЎ... АЛЕ МЫ БОЛЬШ НЯ МОЖАМ СПАКОЙНА НАЗІРАЦЬ, ЯК ВЫ ЗАХАПЛЯЕЦЕ ЎЛАДУ Ў СВАЕ РУКІ.


БЯРЫ СВАЮ МАЛПУ.
МЫ СЫХОДЗІМ АДСЮЛЬ.
«УЛАДУ»? ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ... ЯНЫ ЦАЛЯЛІ Ў ЦЯБЕ?


У СЕНАЦЕ ТОЛЬКІ ТРЫНАЦЦАЦЬ ЖАНЧЫН, ЯШЧЭ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ У ПАЛАЦЕ ПРАДСТАЎНІКАЎ... ПРЫ ГЭТЫМ АМАЛЬ ТРЫ ЧВЭРЦІ З НАС ДЭМАКРАТКІ.
НЕКАЛЬКІ ЖОНАК НЯБОЖЧЫКАЎ РЭСПУБЛІКАНЦАЎ ЛІЧАЦЬ, ШТО МЫ СПРАБУЕМ ЛІКВІДАВАЦЬ ДВУХПАРТЫЙНУЮ СІСТЭМУ, ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО МЫ НЕ АДДАЕМ ІМ ПАСАДЫ ІХ МУЖОЎ.


ТЫ СУР'ЁЗНА? КАЛІ ЎСЕ МУЖЧЫНЫ ПАМЕРЛІ Я ЛІЧЫЎ, ШТО ПАЎНАМОЦТВЫ ПЕРАЙДУЦЬ ДА ААН ЦІ ДА ШТОСЬЦІ ПАДОБНАГА...
КАЛІ ГЭТА ВЫ, ЖАНЧЫНЫ, ПАСПЕЛІ СТАЦЬ ТАКІМІ ДРОБЯЗНЫМІ І... ЎЛАДАЛЮБІВЫМІ?
А ТЫ ХІБА НЕ ГАЛАСАВАЎ ЗА ХІЛАРЫ?


МАГЧЫМА.
У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, ЯК МЫ ІХ СПЫНІМ?
А МЫ І НЯ БУДЗЕМ. МЫ З ТАБОЙ СПУСКАЕМСЯ Ў БОМБАСХОВІШЧА ПАД УСХОДНІМ КРЫЛОМ. ЯГО ПАБУДАВАЎ ЯШЧЭ ЭЙЗЕНХАЎЭР, КАБ ПРЫ НЕАБХОДНАСЦІ БЫЦЬ ЦАЛКАМ ІЗАЛЯВАНЫМ.


ТЫ ШТО, НА САМОЙ СПРАВЕ ЛІЧЫШ, ШТО ГРУПКА З ПЯЦІДЗЕСЯЦІ З ЛІШКАМ УДОЎ МОЖА АБЛАЖЫЦЬ БЕЛЫ ДОМ?
НУ, КАНАДЦЫ ЛЕДЗЬ НЕ СПАЛІЛІ ЯГО ПАД ПАДМУРАК У 1814... ТАМУ ЎСЁ МАГЧЫМА.
ТАК, АЛЕ ТАДЫ ІМ ДАПАМА...


ОГО, ГЭТА ШТО, ЧАСОВЫ ЗАМОК «ДЭЙТАН»?
САКРЭТНАЯ СЛУЖБА ЎСТАЛЯВАЛА ЯГО Ў ЧАС ПЕРШАГА ТЭРМІНУ РЭЙГАНА... НА ВЫПАДАК, КАЛІ РОН ВЫПАДКОВА ЎВЯДЗЕ СВЕТ У ЯДЗЕРНУЮ ЗІМУ, МАГЧЫМА.
ЯК ТОЛЬКІ ДЗВЕРЫ ЗАЧЫНЯЦЦА, ІХ НЕМАГЧЫМА БУДЗЕ АДЧЫНІЦЬ КАЛЯ 30 ГАДОЎ. У ТОЙ ЧАС ЛІЧЫЛІ, ШТО МЕНАВІТА СТОЛЬКІ СКЛАДАЕ ПЕРЫЯД ПАЎРАСПАДУ.


ДАЧАСНА ІХ МОЖНА АДЧЫНІЦЬ ТОЛЬКІ ЗНАДВОРКУ... КІМСЬЦІ З ДАСТАТКОВЫМ УЗРОЎНЕМ ДОСТУПУ.
ТАК... А ХТО Ж НАС ВЫЗВАЛІЦЬ?


НЯ **НАС**, ЁРЫК.


CLANG

ГЭЙ!

ПРАБАЧ, ДАРА-ЖЭНЬКІ.
АЛЕ Я НЕ МАГУ РЫЗЫКАВАЦЬ, ПАКІДАЮЧЫ ЦЯБЕ ЗНАДВОРКУ РАБІЦЬ ЯКІЯ-НЕБУДЗЬ ГЛУПСТВА.

О, НЕ.
ЯНА ЗБІРАЕЦЦА ЗРАБІЦЬ ШТОСЬЦІ ВЕЛЬМІ НЕРАЗУМНАЕ ТАМ НАВЕРСЕ...


ВОСЬ ВЫ ДЗЕ!


СЕНАТАР КЭВЭНОЎ.
Я І НЯ... ВЕДАЛА, ШТО ВЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ТУТ.
ВЫ БАЧЫЛІ, ДЖЭНІФЕР? РЭСПУБЛІКАНЦЫ АТАКУЮЦЬ ДЗЁЎБАНЫ «САД РУЖ»!
ЗДАЕЦЦА, МЫ АДЗІНЫЯ ДВА ПАЛІТЫКАНЫ, ЯКІЯ ЗАСТАЛІСЯ ТУТ НА НОЧ. ПАШАНЦАВАЛА Ж, А?


САКРЭТНАЯ СЛУЖБА ЖАДАЕ, КАБ МЫ СЯДЗЕЛІ Ў СТАРЫМ БУНКЕРЫ АЙКА, ПАКУЛЬ ЯНЫ БУДУЦЬ...
НЕ!


Я МЕЛА НА ЎВАЗЕ... МЫ НЯ МОЖАМ ПРОСТА СЯДЗЕЦЬ ТУТ І ХАВАЦЦА.
НАМ ТРЭБА ПАЧАЦЬ З ІМІ ДЫЯЛОГ, СЕНАТАР, СКОНЧЫЦЬ ГЭТА ЎСЁ ПАКУЛЬ КАГО-НЕБУДЗЬ НЕ ЗАБІЛІ.
ТАК... БЕЗУМОЎНА... ВЫ МАЕЦЕ РАЦЫЮ.


ВОСЬ ТОЛЬКІ, ШТО ДОБРАГА Ў НАС МОЖА АТРЫМАЦЦА...


СУЧЧЫН СЫН.
ЛІТАРАЛЬНА.
КАЛЯ Я ЁЙ НЕ ПЕРАШКОДЖУ, ЯЕ Ж ПРОСТА ЗАБ'ЮЦЬ.
АК О ОО

ТАК, ТРЭБА РАССЛАБІЦЦА... УНУТРЫ ЁСЦЬ АЎТАМАТЫЧНЫ ЗАМОК. ГЭТА ДОБРА.
МАБЫЦЬ У МЯНЕ АТРЫМАЕЦЦА ЯГО ЗАКЛІНАВАЦЬ У АДЧЫНЕНЫМ СТАНОВІШЧЫ І ПЕРАПАДКЛЮЧЫЦЬ «ДЭЙТАН»...

ТАК, АМПЕРСЭНД, ДАЙ МНЕ ТРОХІ ПРАСТОРУ. ЯШЧЭ Ў ДЖЭРСІ ДЗЯЎЧЫНА-ГОТ УКРАЛА МОЙ НАБОР УЗЛОМШЧЫКА... ЗАРАЗ НАСТАЎ ЧАС ВЫВЕРГНУЦЬ ПРЫЛАДУ, ЯКУЮ Я ПРАГЛЫНУЎ.
НУ ВОСЬ, ПАЧЫНАЕЦЦА...
УННН...

...АННН...
HWUHHH

ММ
ГЭТА... ГЭТА Ж ЗАМАРОЖАНАЯ КУРЫНАЯ КАТЛЕТА, ЯКУЮ Я З'ЕЎ НА АБЕД.

ФУ, ЯКАЯ БРЫДОТА!
НЕ ЯСІ ГЭТА, АМПЕРСЭНД!


УБЯРЫ АД ЯЕ СВАЕ РУКІ!
ХУТКА!
ДАЯНА! ПАВЕДАМІЦЕ СТАНОВІШЧА.


ПРАБАЧЦЕ, МЭМ, АЛЕ... У МЯНЕ БЫЛО ТАК МАЛА ЛЮДЗЕЙ, А СІСТЭМА НАЗІРАННЯ ПРАЦАВАЛА НАСТОЛЬКІ ЖУДАСНА, ШТО...
УВОГУЛЕ ЯНЫ ЗАХАПІЛІ АДНУ З МАІХ ЛЮДЗЕЙ, ШЭЙЛУ... ЯНА ДЗЯЖУРЫЛА ЛЯ ВАРОТ.
НЕ ТУРБУЙСЯ, ПРОСТА ГЭТЫМ ЖАНЧЫНАМ ВЕЛЬМІ САМОТНА І СТРАШНА, ЯНЫ АДПУСЦЯЦЬ ТВАЮ ДЗЯЎЧЫНКУ, ЯК ТОЛЬКІ ЗНОЙДУЦЬ КАГО-НЕБУДЗЬ, ХТО БУДЗЕ СЛУХАЦЬ...


ДАМЫ, КАЖА ПРАДСТАЎНІК БРАЎН. СА МНОЙ СЕНАТАР КЭВЭНОЎ. МЫ БЯЗ ЗБРОІ.
МЫ Б ЖАДАЛІ ВЫРАШЫЦЬ УСЁ МІРНЫМ ШЛЯХАМ... ТАМУ, МАБЫЦЬ ВЫ АДПУСЦІЦЕ ВАШАГА ЗАЛОЖНІКА?
БЕЗУМОЎНА... ЯК ТОЛЬКІ ВЫ СПЫНІЦЕ ТРЫМАЦЬ У ЗАЛОЖНІКАХ КАНГРЭС І ДАДЗІЦЕ НАМ СКОНЧЫЦЬ ТОЕ, ШТО ПАЧАЛІ НАШЫ МУЖЧЫНЫ!


ВЫ Ж ЖОНКА ДЭВІДА СТАЛА, ТАК?
МІС СТАЛ, БАЮСЯ, ШТО ГЭТА НЕМАГЧЫМА.
З ЯКОЙ ГЭТА НАГОДЫ?


З ТАКОЙ, ШТО МЫ ПАЛІТЫКІ, А НЕ КАРАЛЕЎСКАЯ ДЫНАСТЫЯ.


ПРАДСТАЎНІК БРАЎН, У ГІСТОРЫІ КАНГРЭСА БЫЎ ПРЭЦЭДЭНТ, КАЛІ СОРАК ПЯЦЬ УДОЎ ЗДЗЕЙСНІЛІ СПРОБУ ЎСПАДКАВАЦЬ ПАСАДЫ ІХ НЯБОЖЧЫКОЎ...
...І КОЖНАЯ З ІХ ДАБІЛАСЯ СВАЙГО. ТАК, Я ЗНАЁМА З ГЭТЫМ ФАКТАМ
АЛЕ ПРЫ ЎСЁЙ ПАВАЗЕ, ЗДАЕЦЦА, ШТО ВЫ ЗАБЫВАЕЦЕ, ШТО ЎСЕ ГЭТЫЯ ЖАНЧЫНЫ БЫЛІ ДЭМАКРАТЫЧНА ВЫБРАНЫ.


ПРАЎДА?
А ЯК НАКОНТ ВАШАЙ СЯБРОЎКІ?


КАЛІ ПАМЁР ДЖЭРЫ Ў 2000, МЯНЕ ПРЫЗНАЧЫЛІ СЕНАТАРАМ.
ТАК, АЛЕ... АЛЕ НАВАТ ГЭТА ДЗЕЯННЕ РАБІЛАСЯ АФІЦЫЙНА ВЫБРАНАЙ СЛУЖБОВАЙ АСОБАЙ.


СЛУЖБОВАЙ АСОБАЙ! І ДЗЕВЯНОСТА ДЗЕВЯЦЬ ПРАЦЭНТАЎ З ІХ МЁРТВЫЯ! ШТО Ж НАМ РАБІЦЬ... ДАЗВОЛІЦЬ КРЭСЛАМ НАШЫХ МУЖЧЫН ЗАСТАЦЦА ПУСТЫМІ НАЗАЎСЁДЫ?
СУМЛЕННА, ВЫ МАЕЦЕ ХОЦЬ ЯКОЕ-НЕБУДЗЬ УЯЎЛЕННЕ ПРА ТОЕ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА ЗА СЦЕНАМІ ВАШЫНГТОНА? РАБАВАННІ І МАСАВЫЯ САМАГУБСТВЫ... НАВАТ КАНІБАЛІЗМ, ЧОРТ ДЗЯРЫ!
НАШЫ ВЫБАРШЧЫКІ МАЮЦЬ ПАТРЭБУ Ў НАСТАЎНІКАХ.


Я РАЗУМЕЮ ГЭТА, МІС СТАЛ, І МЫ АБАВЯЗКОВА ПРАВЯДЗЕМ ЭКСТРАННЫЯ ВЫБАРЫ... КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС.
ДА ГЭТАГА ВЫ ЗРОБІЦЕ БОЛЬШ КАРЫСНАГА ЗНУТРЫ ГРАМАДСТВА, ЧЫМ ВЫ МАГЛІ Б ЗНУТРЫ КАПІТОЛІЯ!


ТЫ МАНІШ! КАЛІ МЫ ЗБІРАЕМСЯ ВЫРАТАВАЦЬ НАШУ КРАІНУ, ЁСЦЬ... ВЫРАШЭННІ, ЯКІЯ ТРЭБА ПРЫМАЦЬ. НАШЫ ГАЛАСЫ ЗАСЛУГОЎВАЮЦЬ БЫЦЬ ПАЧУТЫМІ НЯ МЕНШ ЗА ВАШЫЯ.
МЫ НЕ ЗЛАЧЫНЦЫ, ПРАДСТАЎНІК. МЫ ТОЛЬКІ ЖАДАЕМ... ПРАЦЯГНУЦЬ ПРАЦУ НАШЫХ МУЖЧЫН.
ГЭТЫЯ МУЖЧЫНЫ ЖЫВУЦЬ УНУТРЫ НАС. МЫ ПРЫСВЯЦІЛІ ІМ СВАЁ ЖЫЦЦЁ. МЫ РАЗДЗЯЛЯЕМ ІХ ІДЭАЛЫ І ПАЧУЦЦЁ АБАВЯЗКУ І...


BLAM


О...О, БОЖА.
МОЙ ПАЛЕЦ... СКАЛАНУЎСЯ І Я...


НЕЕЕ!
BLAM
BLAM
BLAM





ЗДАЕЦЦА, МЫ ЗАХРАСНУЛІ. БОЖА, КАЛІ ЛАСКА, Я Ж МАЙСТАР ЗНІКНЕННЯ, А НЕ МАРКІТАВАНЫ МАКГВАЕР.
НЕ МАГУ Ж Я ВЫРВАЦЦА З КРЭПАСЦІ, СКА-РЫСТАЮЧЫ ДЗВЕ САШЧЭПКІ І...




ТАК.
ГЭТА Ж ДЫМА-ВЫЯ ДЭТЭКТА-РЫ... АЛЕ НІЯКАЙ ТАБЕ СРАТАЙ СІСТЭМЫ ПАЖА-РАТУШЭННЯ.
НІ РАСПЫЛЯЛЬНІКАЎ, НІ CO2... НІЧОГА, ШТО ДАВЯЛОСЯ Б ПАДАВАЦЬ ЗНАД-ВОРКУ.




ДЫК ЧЫМ ЖА ДУМАЛІ ХЛОПЦЫ, КАЛІ ЎСЁ ГЭТА ЎСТАЛЁЎВАЛІ, АМП?
КАЛІ Б НЭНСІ РЭЙГАН УПУСЦІЛА Б ТУТ СВАЮ ЗАПАЛЬНІЧКУ , І ЎСЁ Б ЗАЛІЛОСЯ ВОГНІШЧАМ... ТАДЫ Б ГЭТЫЯ ДЗВЕР-ЦЫ З ТРЭСКАМ АДЧЫНІЛІСЯ...
...ЦІ ЗАВЫЛІ Б СОТНІ СІРЭН ЯКОЙ-НЕ-БУДЗЬ АДДАЛЕНАЙ СТАНЦЫІ НАЗІРАННЯ, А ЯНА ТЫМ ЧАСАМ ЗГАРАЛА Б ТУТ ДА ТЛА?




ЁСЦЬ ТОЛЬКІ АДЗІН СПОСАБ ДАВЕДАЦЦА.
SHINK


НЯ ТРЭБА!


BLAM


ЧОРТ ДЗЯРЫ!
НАВОШТА ТЫ... ЗРАБІЛА ГЭТА?
ЭРЫН НІКОЛІ Ў ЖЫЦЦІ НЯ БРАЛА ЗБРОЮ Ў РУКІ... ГЭТА БЫЛА ВЫПАДКОВАСЦЬ.
МНЕ ЎСЁ РОЎНА. А ЗАРАЗ КІДАЙ ЗБРОЮ, ПЕРШ ЧЫМ Я...


ГЭТА БЫЛА ВЫПАДКОВАСЦЬ!
KABLAM


ААННХ!


ДАЯНА!
ДЖЭНІФЕР, СТОЙ!


ШТО Я... ШТО Я ТУТ РАБЛЮ? Я Ж ПРОСТА ЖАДАЛА ЗАБРАЦЬ ФОТАЗДЫМКІ З КАБІНЕТА КУРТА. ФОТАЗДЫМКІ НАШЫХ ХЛОПЧЫКАЎ І...
БОЖА, Я Ж ПІШУ КУЛІНАРНЫЯ КНІГІ...


ЯК ТЫ?
ЖЫЦЬ... БУДУ.
АЛЕ ШТО, ЧОРТ ДЗЯРЫ...


...ГЭТА ТАКОЕ?

SCRRREEEEECH










ВЯРТАЙЦЕСЯ Ў ГРУЗАВІК, МЭМ.
МАРГАРЭТ? АЛЕ Ж... ТЫ Ж МІНІСТР СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.
УЖО НЕ. ДЫК ВОСЬ, ШТО ЗА ХАЛЕРУ ВЫ ЎЧЫНІЛІ, СТАЛ?


МІНІСТР ВАЛЕНТАЙН, МЫ... МЫ ЛІЧЫЛІ, ШТО ВЫ ПАМЁРЛІ.
НЯ СЛУХАЙ ЯЕ, МАРГАРЭТ! ДЭМАКРАТЫ ТОЛЬКІ ШТО ЗАСТРЭЛІЛІ ЖОНКУ БІЛА ВУДРЫНГСА!
ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ВЫ ЗАБІЛІ НІ Ў ЧЫМ НЕ ВІНАВАТАГА АГЕНТА САКРЭТНАЙ СЛУЖБЫ.


ТЫ НЕ РАЗУМЕЕШ, МЫ... У НАС НЕ БЫЛО ВЫБАРУ. ЯНЫ ЗАХАПІЛІ КАНТРОЛЬ НАД БЕЛЫМ ДОМАМ.
НІЧОГА МЫ НЕ ЗАХАПЛЯЛІ. РОЎНА ЯК І ДЛЯ ТАГО, КАБ НАЗЫВАЦЬ СЯБЕ РЭСПУБЛІКАНЦАМ, ТАБЕ НЕ ХАПАЕ РАЗУМЕННЯ ТАГО ФАКТА, ШТО ГЭТА І ЁСЦЬ РЭСПУБЛІКА.
МЫ КІРУЕМ З ДАПАМОГАЙ ЗАКОНУ, А НЕ... ВЫКОНВАЮЧЫ КАПРЫЗЫ ЎЗБРОЕНЫХ АПАЛЧЭНЦАЎ!


МАДАМ ПРЭЗІДЭНТ, КАНГРЭС ТОЛЬКІ ДАКЛАДНА ТРЫМАЕЦЦА ЗАГАДАЎ БАЦЬКАЎ-ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ.
БАЦЬКІ-ЗАСНАВАЛЬНІКІ **ПАМЁРЛІ!**
УСЕ МУЖЧЫНЫ ПАМЁРЛІ! Х КАНСТЫТУЦЫЯ ЎЖО НЯ ДЗЕЙНІЧАЕ!


ПРЫЙШОЎ ЧАС ШТОСЬЦІ **ЗМЕНЬВАЦЬ.**




КАЛІ ВАС САПРАЎДЫ ХВАЛЮЕ НАСТУПНАЕ ПАКАЛЕННЕ АМЕРЫКАНЦАЎ...

ПАДУМАЙЦЕ ДВОЙЧЫ, ПЕРШ ЧЫМ ВЫКІДВАЦЬ ДАКУМЕНТ, ЯКІ ДЗЕЙНІЧАЎ, ПРЫЧЫМ ВЕЛЬМІ НЯДРЭННА, АПОШНІЯ ДЗВЕСЦЕ ГАДОЎ.




НЯ ВЕДАЮ, ЦІ АДЗІНЫ Я МУЖЧЫНА НА ЗЯМЛІ... АЛЕ Я НЕ ЗБІРАЮСЯ СТАНАВІЦЦА АПОШНІМ.
І МНЕ БЫЛО Б АГІДНА ПАВЕДАМЛЯЦЬ СВАІМ ДЗЕЦЯМ, ШТО ГЭТА ВЯЛІКАЯ НАЦЫЯ, ПАБУДАВАНАЯ НА ВЫСІЛКАХ І КРЫВІ МІЛЬЁНАЎ МАІХ СУБРАТАЎ, БЫЛА ЗНІШЧАНА ЯКІМІ-ТА...

ХОПІЦЬ, МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК.
ГЭТЫЯ ЖАНЧЫНЫ ПЕРАЖЫЛІ БОЛЬШ, ЧЫМ ТЫ МОЖАШ УЯВІЦЬ. ЯНЫ НЕ ЗАСЛУГОЎВАЮЦЬ ТАГО, КАБ ІХ ПРАБІРАЎ САМАЎПЭЎНЕНЫ ХЛАПЧУК.
ДЗЯКУЙ, МАРГАРЭТ. МЫ ТОЛЬКІ СПРАБАВАЛІ...

ЗАБІ ЗЯПУ, СТАЛ. ХЛОПЕЦ МАЕ РАЦЫЮ. ВЫ - ГАНЬБА НАШАЙ ПАРТЫІ.
АГЕНТ 355, АРЫШТУЙЦЕ ГЭТЫХ ГРАМАДЗЯНСКІХ.
АЛЕ...?

А З ТАБОЙ Я ЖАДАЮ ПАГУТАРЫЦЬ САМ-НАСАМ. У МАІМ КАБІНЕЦЕ.
ЯК ПАЖАДАЕЦЕ МІС, ЭЭ... МІС ПРЭЗІДЭНТ.
АЛЕ СПАЧАТКУ...

...Я Б НА ВАШЫМ МЕСЦЫ ШТОСЬЦІ ЗРАБІЎ З ІНФЕРНА Ў СУТАРЭННІ.




...А ДЗЕ ВЫ АДКАПАЛІ ГЭТЫ СМЕЦЦЯ-ВОЗ?
ТЫ НІ ЗА ШТО НЕ ПА-ВЕРЫШ, АЛЕ МЫ З 355 КАНФІСКАВАЛІ ЯГО Ў НЕЙКАЙ **СУПЕРМАДЭЛІ**...
Я НЕ РАЗУМЕЮ. «ГРУПА КАЛПЕР» БЫЛА ШПІЁНСКАЙ СЕТКАЙ ДЖОРДЖА ВАШЫНГТОНА. ЯНА НЕ ІСНУЕ З ЧАСУ РЭВАЛЮЦЫІ.
Я Б ЖАДАЛА ПАВЕДАМІЦЬ ВАМ БОЛЬШ, ПРАДСТАЎНІК... АЛЕ Ў ВАС НЕДАСТАТКОВЫ ЎЗРОВЕНЬ ДОСТУПУ.


ДОБРА, ДАМЫ. МЫ СКОНЧЫМ НАШУ ГУТАРКУ ПАС-ЛЯ ТАГО, ЯК ГЭТЫ АМЕРЫКАНСКІ МУЖ-ЧЫНА ПАВЕДАМІЦЬ НАМ ПРА СВАЕ ДА-ЛЕЙШЫЯ ПЛАНЫ.
НУ... КАЛІ ВЫ ДАЗВОЛІЦЕ, Я Б ЖАДАЎ ЗНАЙСЦІ БІЯІНЖЫНЕРА, ПРА ЯКОГА КАЗАЛА МАЯ МАЦІ... КАБ ДАПАМАГЧЫ ЁЙ У ДАСЛЕДАВАННІ, ЧЫМ ЗМАГУ.


ПАСЛЯ ГЭТАГА Я Б... ПАЛЯЦЕЎ У АЎСТРАЛІЮ. МАЯ КАХАНАЯ ЗАРАЗ ТАМ, МЭМ. Я ПАВІНЕН ЯЕ...
КАТЭГАРЫЧНА НЕ, ЁРЫК.
МЫ ЗНОЙДЗЕМ ДОКТАРА МАН І БЭТ, І ПРЫВЯДЗЕМ ІХ СЮДЫ, АЛЕ ТЫ НЕ ПАКІНЕШ БЕЛЫ ДОМ.


МА, Я ПЕРАЖЫЎ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ У ДАРОЗЕ... **САМАСТОЙ-НА**. А ТУТ Я ПРАБЫЎ 15 ХВІЛІН, І ГЭТА МЕСЦА ЎЖО ПАСПЕЛА ПЕРАТВА-РЫЦЦА Ў «НОЧ ЖЫВЫХ МЕРЦВЯКОЎ».


ЁРЫК МАЕ РАЦЫЮ.
ВЫ... ВЫ ЗГОДНЫ?
НЯШМАТ ЧАСУ ПРОЙДЗЕ, ПЕРШ ЧЫМ ІНШЫЯ ДАВЕДАЮЦЦА ПРА ЦЯБЕ, ТАМУ Я НЕ ЛІЧУ, ШТО РАЗУМНА УТРЫМЛІВАЦЬ ЦЯБЕ ТАМ, ДЗЕ ЦЯБЕ ЗАЎСЁДЫ ЗМОГУЦЬ ЗНАЙСЦІ.


АЛЕ Я І НЕ МАГУ ДАПУСЦІЦЬ, КАБ НАША ЛЕПШАЯ НАДЗЕЯ НА БУДУЧЫНЮ БЕГАЛА ПА ЎСЁЙ ПЛАНЕЦЕ.
МЫ ЗРОБІМ УСЁ МАГЧЫМАЕ, КАБ ЗНАЙСЦІ ТВАЮ СЯБРОЎКУ, АЛЕ Я НЕ ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ПАКІДАЎ ШТАТЫ, ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЗНОЙДЗЕШ ДОКТАРА МАН.
І КАБ УПЭЎНІЦЦА, ШТО ТЫ ЗАСТАНЕШСЯ Ў МЕЖАХ КРАІНЫ... Я НАЗНАЧАЮ АГЕНТА 355 АБАРАНЯЦЬ ЦЯБЕ.


АБАРАНЯЦЬ? МАДАМ ПРЭЗІДЭНТ... МНЕ ТРЭБА АБАРАНЯЦЬ ВАС. САКРЭТНАЯ СЛУЖБА
...ВЯРБУЕ НОВЫХ ЖАНЧЫН КОЖНЫ ДЗЕНЬ. АКРАМЯ ТАГО, ЗНАХОДЖАННЕ І ДАСТАЎКА ЛЮДЗЕЙ ПА НАЗНАЧЭННЮ Ў ЦЯБЕ АТРЫМЛІВАЕЦЦА ЛЕПЕЙ, ЧЫМ У АСТАТНІХ.
ХІБА ТЫ НЕ ПРЫСЯГАЛАСЯ ВЫКОНВАЦЬ УСЁ, ШТО ЗАГАДАЕ ТВОЙ КАМАНДЗІР?


ПРЫСЯГАЛАСЯ, МЭМ.
ФАЙНА. АДПРАЎЛЯЙЦЕСЯ, АЛЕ СПАЧАТКУ ЁРЫК ПААБЯЦАЕ СВАЁЙ МАЦІ, ШТО ЁН НЯ БУДЗЕ ЧЫНІЦЬ ДУРАСЦІ ПАДЧАС СВАЙГО ВАНДРАВАННЯ.
ДЗЯКУЙ, МЭМ.
ПРЫЕМНАЙ ДАРОГІ ВАМ АБОДВУМ, І ШТО Б НІ ЗДАРЫЛАСЯ...


...НЕ ЗАВАЛІЦЕ СПРАВУ.

# Тэль-Авіў. Ізраіль.
# Праз тры дні.
























Працяг будзе...



VERTIGO

ISSUE **4**
СНЕ 2002

«...Гэты комікс знес нам галовы...»
-WIZARD

БРАЯН К. **ВОН**
ПІЯ **ГУЭРА**
ЖАЗЭ **МАРЗАН**

АРЫЕНТАВАНА НА ДАРОСЛЫХ ЧЫТАЧОЎ

















.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

comicsby.by
vertigocomics.com

Y – АПОШНІ МУЖЧЫНА #04
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ

**Вашынгтон.**
**Зараз**









# UNMANNED

# БЕЗ МУЖЧЫН

## частка чацвёртая

ПЕРАКЛАД – АРТУР БАРАДАЧОЎ, АФАРМЛЕННЕ– СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ



# Вашынгтон. Гадзіна таму












НАМ НІКОЛІ НЕ ДАЙСЦІ ДА БОСТАНА ПЕШКІ, А ТРАСЫ ВЕЛЬМІ ПЕРАГРУЖАНЫ, КАБ ЕХАЦЬ НА МАШЫНЕ.
НАМ ПАТРЭБНЫ МАТАЦЫКЛЫ.

ПОСПЕХАЎ. Я ХУТЧЭЙ ЗНАЙДУ ТАБЕ АДДАНАГА ФАНАТА ШОЎ «THE THREE STOOGES».
З ТАГО САМАГА МОМАНТУ, ЯК УСЕ МУЖЧЫНЫ ПАМЁРЛІ, МАТАЦЫКЛЫ ПАРАСЦЯГАЛІ, ЯК...
Я ВЕДАЮ. ЁРЫК... ПРОСТА ЗРАБІ ЛАСКУ, НАЧАПІ НАЗАД СВОЙ ПРОЦІВАГАЗ І КАНЧАЙ БАЛБАТАЦЬ.

А ЧАМУ Б ТАБЕ НЯ СКОНЧЫЦЬ БАЛБАТАЦЬ?
РАЗМАЎЛЯЙ ЦІШЭЙ.
НЕ! НАМ З ТАБОЙ ТРЭБА ЎТРЭСЦІ ГЭТА ЛАЙНО. ПРАМА ТУТ І ЗАРАЗ.

МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ, ШТО Я НЕ ЖАДАЎ, КАБ ТЫ ЦЯГНУЛА МЯНЕ ДА НЕЙКАГА ДОКТАРА-АТАКА-КЛОНАЎ. У ГЭТЫ ЧАС Я МОГ ШУКАЦЬ ДЗЯЎЧЫНУ, ЯКУЮ КАХАЮ. ДОБРА.
УПЭЎНЕНЫ, ТЫ НЯ ВЕЛЬМІ ІМКНУЛАСЯ ЦАЦКАЦЦА З АПОШНІМ МУЖЫКОМ НА ЗЯМЛІ. У ГЭТЫ ЧАС ТЫ Б МАГЛА ЗАЙМАЦЦА... ЯКОЙ ТАМ ЛУХТОЙ ТЫ ЗАЙМАЕШСЯ ДЛЯ СВАЁЙ МАЛЕНЬКАЙ САКРЭТНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ?
І ВЕДАЕШ ШТО? ГЭТА НАШ ЛЁС, ТАКІМ ЧЫНАМ НАМ ТРЭБА ЯК-НЕБУДЗЬ НАВУЧЫЦЦА БЫЦЬ ЦЫВІЛІЗАВАНЫМІ АДЗІН З АДНЫМ. ПАКУЛЬ УСЁ ГЭТА НЯ СКОНЧЫЦЦА.

ГРУПА «КАЛПЕР» НАЎРАД «САКРЭТНАЯ» СУПОЛЬНАСЦЬ. ПРА НАС МОЖНА ПРАЧЫТАЦЬ У КОЖНЫМ ПАДРУЧНІКУ ПА ГІСТО...
ДЫ КАГО ХВАЛЮЕ ВАШ БЯЗГЛУЗДНЫ КЛУБ? ТЫ Ж УВОГУЛЕ БОЛЬШ НІ ПРА ШТО НЕ РАЗМАЎЛЯЕШ! У СЭНСЕ, У ЦЯБЕ ШТО, НЯМА СЯБРОЎ? СЯМ'І?

БЫЛІ.


АА, ВОСЬ ЛАЙНО. ПАСЛУХАЙ, 355, Я...
УСЁ НАРМАЛЬНА, ЁРЫК.
Я ЗГУБІЛА ІХ ДАЎНО.


ШТО НАКОНТ ЦЯБЕ? ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ ДУМАЕШ ПРА КАГО-НЕБУДЗЬ АКРАМЯ СВАЁЙ ДЗЯЎЧЫНКІ?
БЭТ НЕ МАЯ ДЗЯЎЧЫНКА, ЯНА МАЯ НЯВЕСТА... У НЕЙКІМ СЭНСЕ.
І НЕ, ЯНА НЕ АДЗІНЫ ЧАЛАВЕК, ЯКІ МЯНЕ ТУРБУЕ. Я ЎСЁ ЯШЧЭ НЯ ВЕДАЮ, ШТО З ХІРОЎ, МАЁЙ СТАРЭЙШАЙ СЯСТРОЙ.


ХІРОЎ?
МОЙ ТАТА ВЫКЛАДАЕ...


...ВЫКЛАДАЎ ДРАМУ.


НАПЭЎНА ЁН ЛІЧЫЎ, ШТО НАЗЫВАЮЧЫ НАС У ГОНАР НЕАДНАЗНАЧНЫХ ШЭКСПІРАЎСКІХ ПЕРСАНАЖАЎ, ЁН АТРЫМЛІВАЕ НАД НАМІ ЎЛАДУ.
ЦІ ТАК, ЦІ ЁН ВЫРАШЫЎ ПАКАРАЦЬ НАС ЗА ТОЕ, ШТО МЫ НАРАДЗІЛІСЯ.
І ЎСЁ Ж, ЯК БЫ ДЗІЎНА ГЭТА НЕ БЫЛО, МЫ З ХІРОЎ СТАЛІ ПАДОБНЫМІ НА НАШЫХ ПРАТАТЫПАЎ.
ЯНА СТАЛА ПАРАМЕДЫКАМ... Я СТАЎ БЕСКАРЫСНЫМ БЛАЗНАМ.


ВЫ З ЁЙ БЛІЗКІЯ, ТАК?
ЯК ЛЮК І ЛЕЯ... НЕ ЎЛІЧВАЮЧЫ ФРАНЦУЗСКІ ПАЦАЛУНАК. НАША СЯМ'Я ЧАСТА ПЕРАЯЗДЖАЛА, КАЛІ МЫ БЫЛІ ДЗЕЦЬМІ, ТАКІМ ЧЫНАМ МЫ З ХІРОЎ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ СЯБРАМІ ПА ЗМАЎЧАННІ.
УВОГУЛЕ, Я СПАДЗЯВАЎСЯ, ШТО ТЫ ДАЗВОЛІШ МНЕ ПАШУКАЦЬ ЯЕ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК МЫ ЗНОЙДЗЕМ ДОКТАРА МАН. З ТАГО, ШТО Я ВЕДАЮ, ЯНА ТАКСАМА БЫЛА Ў БОСТАНЕ.
ПАБАЧЫМ, ЁРЫК. НАШЫМ ПЕРШЫМ ПРЫЯРЫТЭТАМ УСЁ ЯШЧЭ З'ЯЎЛ...


ПАЧАКАЙ.
ГЭТА ЯШЧЭ ШТО ЗА ХАЛЕРА?







ЗДАГА-ДАЙСЯ.

NO PARKING


ААА.
ВЫ, ДЗЯЎЧЫНКІ, ЗАЎСЁДЫ НАМЯКАЕЦЕ НА ГЭТА, ТАК?
ГЭЙ, НЯ МЫ ПАБУДАВАЛІ ГЭТУ ШТУКУ.


У МЯНЕ ЁСЦЬ НАЙМАЛЫ ШАНЦ АДДАЦЬ ДАНІНУ ПАВАГІ? ХОЦЬ НА ХВІЛІНКУ?
АБЯЦАЮ ЗАСТАВАЦЦА ЗАМАСКАВАНЫМ, 355. Я НАВАТ МАГУ ЗЫМІТАВАЦЬ ЖАНОЧЫ ГОЛАС. БЫВАЛА Ў ШКОЛЕ Я ТЭЛЕФАНАВАЎ НА ЛІНІЮ ПАДТРЫМКІ ВЫБАРЦАЎ І ПРЫКІДВАЎСЯ, ШТО Я...
ПРАБАЧ, ЁРЫК, АЛЕ МЫ НЯ МОЖАМ ТАК РЫЗЫКАВАЦЬ.


ДОБРА, ДОБРА. Я РАЗУМЕЮ.
СЛУХАЙ, МОЖАШ ПАТРЫМАЦЬ АМПЕРСЭНДА ПАРУ СЕКУНД?
ММН


НЕ!
ЁРЫК, ТВАЮ МАЛПУ ТРЭБА ЛЯЧЫЦЬ. МІНУЛАЙ НОЧЧУ ЯНА СПРАБАВАЛА ЗАЙМАЦЦА СЕКСАМ З МАЁЙ РУКОЙ! ТЫ НЯ МОЖАШ ВОСЬ ТАК...


ЁРЫК?






О БОЖА.


ПРАБАЧЦЕ.
ВЫ НЕ... ВЫ Ж...?


Я ВАС ВЕДАЮ, ДАРАЖЭНЬКАЯ?
ОО. Я... Я ЎБАЧЫЎ ПРОЦІВАГАЗ І ПАДУМАЎ, ШТО ВЫ ІНШЫ...
ПАДУМАЎ, ШТО ВЫ ХТОСЬЦІ, КАГО Я ВЕДАЮ.


ПРАБАЧЦЕ, Я ТАК ПРЫВЫКНУЛА НАСІЦЬ ГЭТУ ЛАЙНОВУЮ ШТУКУ... КАЛІ АДБЫЛАСЯ ЭПІДЭМІЯ, ЯНА СТАЛА ДЛЯ МЯНЕ ПРЫКРЫЦЦЁМ. ДЛЯ ВАС, Я БАЧУ, ТАКСАМА?
ДАРЭЧЫ Я РОЎЗ. ПРЫСАДЖВАЙЦЕСЯ.
ДЗЯКУЙ. Я... БЭТ.


НЯМА ЗА ШТО. ДЗЕЛЯ КАГО ВЫ СЁННЯ ПРЫЙШЛІ, БЭТ?
ДЗЕЛЯ КАГО? Я... Я НЯ ВЕДАЮ. НАПЭЎНА, ДЗЕЛЯ ЎСІХ МУЖЧЫН, З ЯКІМІ Я НЕ РАЗВІТАЛАСЯ.
НАПРЫКЛАД, ЭММ... МОЙ НАСТАЎНІК АНГЛІЙСКАЙ МОВЫ Ў СЁМЫМ КЛАСЕ. МІСТЭР ФЭДАР. АПОШНІ РАЗ Я ГУТАРЫЛА З ІМ ГАДЫ ТАМУ... АЛЕ Ж ЗАЎСЁДЫ ПАМЯТАЕШ ЧАЛАВЕКА, ЯКІ АДКРЫЎ ДЛЯ ЦЯБЕ «ЗАБІЦЬ ПЕРАСМЕШНІКА».
А ШТО НАКОНТ ВАС?


МІК ДЖАГЕР.


СУР'ЁЗНА?
АБСАЛЮТНА. У СЭНСЕ, НЕ ЗРАЗУМЕЙЦЕ МЯНЕ НЯПРАВІЛЬНА, БЕЗУМОЎНА, Я ВЕЛЬМІ СУМУЮ ПА МАІХ ХЛОПЧЫКАХ, АЛЕ СЁННЯ ШТОСЬЦІ ЗНЯНАЦКУ НАЙШЛО НА МЯНЕ...
«THE ROLLING STONES» ПАМЁРЛІ.




ДЫЛАНА.
БОЎІ.
ЗАСТАЎШЫХСЯ БІТЛАЎ.
УСІХ З «THE EELS».
«THE WHO?»
І ІХ ТАКСАМА.
«U-2».
«RADIOHEAD».
ТОМА ПЭЦІ.
ТОМА ЎЭЙТСА.
НІЛА ЯНГА.
ЯЛДОНА «ДЗІ».
**УСІХ ДА АДНАГО!**




ШТО... ПРА ШТО ГЭТА ТЫ?
У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ГЭТА ПРЫЛАДА?
ЭЭ... НЕ.
НУ, ТАДЫ ТАБЕ ЛЕПЕЙ ЗНАЙСЦІ ЯЕ, ДЗЯЎЧЫНКА. МЫ ЗБІРАЕМСЯ ПРАЦЯГ-НУЦЬ ТОЕ, ШТО ПАЧАЛІ ХЛОПЦЫ. ДАНЕСЦІ ЎВЕСЬ ГЭТЫ ШАРМ У СТЫЛІ ДЖЭНІС.


АА, НУ ТАК.
Я СА СВАЁЙ ГРУПАЙ СПРАБУЮ НАСКРЭБЦІ ДАСТАТКОВА ЖРАТВЫ, КАБ АПЛАЦІЦЬ ПРАЕЗД У БРЫТАНІЮ. КАЖУЦЬ, ТОРЫ ЗАСНАВАЛА ТАМ НЕЙКУЮ СУПОЛКУ МУЗЫКАЎ.
КАЛІ ТЫ ВЕДАЕШ ДО-БРЫХ БАРА-БАНШЧЫЦ, МЫ Б...


ВОСЬ ЛАЙНО.
У ЧЫМ СПРАВА?
У ІХ.


АМАЗОНКІ.
ЗНАЁМА З ІМІ ТОЛЬКІ ПА ЧУТКАХ. ЯНЫ НІБЫ... ВАЛАЦУЖНЫЯ БАНДЫ РАЗ'ЮШАНЫХ ЛЕСБІЯНАК, ТАК?
НЕ-А, ЯНЫ НЕ ЛЕСБІЯНКІ. ЯНЫ ПРОСТА ЛЯСНУТЫЯ. МНЕ КАЗАЛІ, ШТО ЎСЕ ЯНЫ АДРЭЗАЛІ САБЕ АДНУ ЦЫЦКУ.


НАВОШТА?
БЫЦЦАМ ТАК РАБІЛІ САПРАЎДНЫЯ АМАЗОНКІ. ГЭТА ПАЛЯГЧАЕ СТРАЛЬБУ З ЛУКА, ЦІ ШТОСЬЦІ ПАДОБНАЕ.
ХТО ВЕДАЕ. ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ ГЭТА ДАЕ ЕЖУ І АХОВУ, НЕКАТОРЫЯ ДЗЯЎЧЫНЫ ГАТОВЫЯ НА ЎСЯЛЯКУЮ ХАЛЕРУ, КАБ ТРАПІЦЬ У БАНДУ.


ШТО ГЭТА ЯНЫ РОБЯЦЬ?
GOOD
ТОЕ Ж САМАЕ, ШТО ЯНЫ РАБІЛІ З «СІМВАЛАМІ ПАРТЫЯРХАТУ».
ХАЙ. ПАЗНЕЙ МЫ ЎСЁ РОЎНА ЎСЁ ПРЫБЯРОМ. НЯ ТРЭБА РЫЗЫКАВАЦЬ СВАІМ ЖЫЦЦЁМ. ПАЙШЛІ АДСЮЛЬ ДАЛЕЙ.


ДА НУ ІХ ДА ЛІХАМАТАРЫ.
БЭТ, ПАЧАКАЙ!
ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ НЕБЯСПЕЧНЫЯ. ТЫ НЯ МОЖАШ...


НЕ...
ГЭТА ДЗЕЎКА ЗУСІМ ЗДУРНЕЛА.


О, Я БАЧУ, У ВАС ТУТ СУР'ЁЗНАЯ ТВОРЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ...
*ГЛАДКАЙ ДАРОГІ
GOOD RIDDENCE

...НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЛАЙНО.

ГЭТА ЦЯБЕ НЕ ДАТЫЧЫЦЦА, СЯСТРЫЧКА.
МНЕ ТАК НЕ ЗДАЕЦЦА.

І Я НЕ ТВАЯ МАРКІТАВАНАЯ СЯСТРЫЧКА!

НЕМАГЧЫМА.
ТЫ... ТЫ НАЎПРОСТ ПЕРААПРАНУТАЯ САМАЗВАНКА.
СКАЖЫ ГЭТА «ЯБЛЫКУ АДАМА».












# Вашынгтон.
# Зараз










УХН!


ALWAYS
LOVE YOU
ХНН-Г.


ІДЗІ ДА ЛІХАМАТАРЫ АД МЯНЕ!


ТЫ ТРУП.
КАЛІ ГЭТА ВАШ СВЕТ, ТО Я ПАС. ПРОСТА ВЫРАШЫСЯ І НАРЭШЦЕ ЗАБІ МЯНЕ!
ТАДЫ СПЫНІСЯ БАЛБАТАЦЬ І ЗРАБІ ГЭТА, ДРАНАЯ ТЫ ПЯСТУХА.


НЯ СЛУХАЙЦЕ ЯГО, МЭМ.


А ТЫ ШТО, ЯГО МАЛЕНЬКАЯ СТЭПФАРДСКАЯ ЖОНАЧКА?
ПАВЕР, Я ТОЛЬКІ РАБЛЮ ТАБЕ ПАВАГУ.
ПАПЯРЭДЖВАЮ АПОШНІ РАЗ. АДПУСЦІЦЕ ЯГО.
КАЛІ ЛАСКА.

ТОЛЬКІ ПАДЫМІ НА МЯНЕ РУКУ, І Я ПАРЭЖУ ЦЯБЕ, ПЕРШ ЧЫМ...



БЯЖЫЦЕ.


ПАСПЯВАЕМ УПРЫТЫК, ЦІ НЯ ТАК?


НЕ ЗУСІМ. Я САЧЫЛА ЗА ТАБОЙ АПОШНІЯ ДЗЕ-СЯЦЬ ХВІЛІН.
АПОШ... ПРА ШТО ГЭТА ТЫ КАЖАШ?
ТЫ ПРОСТА СТАЯЛА ТАМ, ПАКУЛЬ ЯНЫ ЛУПЦАВАЛІ МЯНЕ? ЧАМУ?
LOVE YOU


КАБ ПАДАЦЬ ТАБЕ ЎРОК.
КАЛІ Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ЧЭЛЕС, ГЭТА ЯШЧЭ НЯ ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ТЫ НЕПАРАЖАЛЬНЫ.


О, ДЗЯКУЙ ЗА ПАДКАЗКУ, ПРАФЕСАР.
БОЖА, З ЯКОЙ НАГОДЫ ТЫ АД-ЧЫТВАЕШ МЯНЕ, ЯК НЕЙКАГА ХЛОПЦА-ХУЛІГАНА? МЫ З ТАБОЙ АМАЛЬ АДНАГО ЎЗРОСТУ!


ДЫК ПАВОДЗЬ СЯБЕ АД-ПАВЕДНА, ЁРЫК!


ТАБЕ ДАРУЧЫЛІ АДНУ З САМЫХ ВАЖНЫХ МІСІЙ У ГІСТОРЫІ, І ШТО ТЫ РОБІШ?
РАСКРЫВАЕШ СЯБЕ ПЕРАД ЧАРГОВАЙ ГРУПАЙ НЕЗНАЁМЦАЎ? РЫЗЫКУЕШ ЖЫЦЦЁМ З-ЗА НЕЙКАЙ ДУРНОЙ СПРЭЧКІ? ПРА ШТО ТЫ, ТРАСЦА ТАБЕ Ў БОК, ДУМАЎ?


Я ПАДУМАЎ, ШТО НАДЫШОЎ ЧАС НАБЫЦЬ НАМ МАТАЦЫКЛЫ.




УСЁ БЫЛО РАЗЛІЧАНА... ФРЭН.


«БІНТАЎН» ЦІ АБЛОМ, ТАК ЖА?
УПЕРАДЗЕ ДОЎГАЕ ЧОРТАВА ПАДАРОЖЖА...

**Балцімарскі выстаўны цэнтр.
Праз шэсць гадзін**

АДНОЙЧЫ БОБІ ФІШЭР СКАЗАЎ, ШТО ПЕРАМОЖА ЎСЯЛЯКУЮ ЖАНЧЫНУ Ў ШАХМАТЫ З АПУШЧАНЫМІ РУКАМІ... З ЗАВЯЗАНЫМІ ВАЧАМІ І БЯЗ КОНЕЙ.

Я ПЕРАМАГЛА ЯГО Ў АСАБІСТАЙ СУСТРЭЧЫ, КАЛІ МНЕ БЫЛО **ТРЫНАЦЦАЦЬ**.

HAHA HA HA HA

HAHA




ВІКТОРЫЯ, МНЕ ТАК ШКАДА, Я... Я АБЛАЖАЛАСЯ.


УСТАНЬ З КАЛЕН, ХЛОЯ. МЫ ЎСЕ ТУТ РАЎНЫЯ.
ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? З ТАБОЙ УСЁ Ў ПАРАДКУ?


МУЖЧЫНА. МЫ НАТЫКНУЛІСЯ НА МУЖЧЫНУ.
ТЫ ЎПЭЎНЕНА? НЕ ЧАРГОВАЯ ПРААПЕРАВАНАЯ?
ГЭТЫ БЫЎ САПРАЎДНЫ, ВІКТОРЫЯ. МЫ СПРАБАВАЛІ... ЗРАБІЦЬ ТОЕ, ЧАМУ ТЫ НАС ВУЧЫЛА... АЛЕ ЁН УЦЁК.
ТЫ ВЕДАЕШ, КУДЫ ЁН НАКІРАВАЎСЯ?


Я ЧУЛА, ЯК ЁН КАЗАЎ ШТОСЬЦІ ПРА... ПРА БОСТАН.
ДОБРА. НАМ ПАТРЭБНЫ ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЎЗНАЧАЛІЦЬ ПОШУКАВУЮ ГРУПУ. СЯРОД ВАС ЁСЦЬ ТЫЯ, ХТО ДОБРА ВЕДАЕ РЭГІЁН?


Я.
ДЗЯКУЙ, ШАНОЎНАЯ.
ПРАБАЧ, ТЫ НОВЕНЬКАЯ, ТАК? ЯК ЦЯБЕ ЗАВУЦЬ?







НЕ ПРЫХОДЗЬ, ЛЮБЫ.

Я НЕ МАГУ ПРЫЙСЦІ.

Я... Я НАВАТ ДАКРАНУЦЦА ДА ЦЯБЕ НЕ МАГУ.




...ТЫ ВЕДАЕШ ЧАМУ.
UNMANNED conclusion
БЕЗ МУЖЧЫН
заклю-чэнне
ПЕРАКЛАД – АРТУР БАРАДАЧОЎ, АФАРМЛЕННЕ – СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ




**Бостан. Масачусетс.**
**Зараз**

ТЫ КРЫЧАЎ У СНЕ.

КАШМАРЫ?

ШТО...?

А... ТАК. ТАК, МАБЫЦЬ. Я БЫЎ ПРАМА ПАСЯРОД АЎСТРАЛІЙСКАЙ ПУСТЫНІ І...




ВАЖНЕЙ ІНШАЕ... ТЫ ВЯЖАШ?


НУ, І?


Я НЯ ДУМАЎ, ШТО Ў ЦЯБЕ ЁСЦЬ ЗАХАПЛЕННІ, 355. АКРАМЯ ЯК, НУ, ЧЫСЦІЦЬ ЗБРОЮ ЦІ ТАЧЫЦЬ НАЖЫ... УВОГУЛЕ, ВАЛТУЗІЦЦА З РЭЧАМІ, ЯКІЯ ЗАБІВАЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ.
МЯНЕ БАБУЛЯ НАВУЧЫЛА. ГЭТА ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО Я РАБЛЮ, КАЛІ...
ТОЛЬКІ ТОЕ, ЧЫМ Я МАГУ ЗАНЯЦЬ РУКІ.


І ШТО ГЭТА БУДЗЕ? МЯШОЧАК ДЛЯ СТРЭЛЬБЫ?


ВЕДАЕШ, А ГЭТЫМ МОЖНА ЗАБІЦЬ ЧАЛАВЕКА.


УВОГУЛЕ ДОБРА, ШТО ТЫ ПРАЧНУЎСЯ. ПАКУЛЬ ЦЁМНА, МЫ МОЖАМ ПРАЦЯГВАЦЬ ПОШУКІ ДОКТАРА МАН.
ЧАМУ МЫ ПАВІННЫ ЎСЁ РАБІЦЬ ПАСЯРОД НОЧЫ? НА МЯНЕ Ж НІХТО НЕ ЗІРНЕ, ПАКУЛЬ Я БУДУ Ў ГЭТЫМ.
Я ЎЛАСНАРУЧНА ДЫСКРЭДЫТАВАЎ ЭФЕКТЫЎНАСЦЬ ПАЛАВОГА РАСПАЗНАННЯ.


ГЭТА ПАЎДНЁВЫ БОСТАН, ЁРЫК. МАБЫЦЬ ТЫ І МОЖАШ ВЫГЛЯДАЦЬ ЯК ЖАНЧЫНА... АЛЕ Я НЕ МАГУ ВЫГЛЯДАЦЬ ЯК **БЕЛАЯ**.
ТЫ СУР'ЁЗНА ЛІЧЫШ, ШТО ГЭТА САПРАЎДЫ ПРАБЛЕМА?
А ШТО? УСЁ ЗМЯНІЛАСЯ, ТАМУ ШТО ЎЖО ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШАЕ СТАГОДДЗЕ... ЦІ ТАМУ ШТО ЎСЕ МУЖЧЫНЫ МЁРТВЫЯ? ВА ЎСЯЛЯКІМ ВЫПАДКУ МОЙ АДКАЗ **«ТАК»**.


МАБЫЦЬ, ТЫ І МАЕШ РАЦЫЮ.
СЛУХАЙ, МАБЫЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ У НАСТУПНЫ РАЗ ШУКАЦЬ ДОКТАРА МАН, ЯШЧЭ РАЗОК ПАШУКАЕМ ХІРОЎ?
ПРАБАЧ, ЁРЫК... Я НЯ ВЕДАЮ, ШТО ЯШЧЭ МЫ МОЖАМ ЗРАБІЦЬ. Я КАЗАЛА ТАБЕ, ШТО ПРАВЕРЫЛА ЯЕ КВАТЭРУ, ПАЖАРНУЮ СТАНЦЫЮ, КВАТЭРУ ЯЕ ХЛОПЦА...


ЛАЙНО, ЯЕ **ХЛОПЕЦ**...
У ЧЫМ СПРАВА?
Я НАВАТ НЕ ПАДУМАЎ ПРА ЯГО. ЯНА Ж СУСТРАКАЛАСЯ З ІМ ТОЛЬКІ ДВА МЕСЯЦЫ, АЛЕ ПРЫ ГЭТЫМ ЁН ЗДАВАЎСЯ САПРАЎДЫ ДОБРЫМ МУЖЫКОМ.


ХІРОЎ НІКОЛІ НЕ ШАНЦАВАЛА Ў АДНОСІНАХ. З ДЗЯЦІНСТВА ГЭТА БЫЎ БЕСПЕРАПЫННЫ ПАРАД НЯЎДАЧНІКАЎ І НЕЙКІХ ГРУБЫХ МАРДУНОЎ.
АЛЕ ЯК ТОЛЬКІ ЯНА ЗНАЙШЛА МІСТЭРА ПРЫГАЖОСЦЬ...


ЦІКАВА, ЯК ЯНА ТРЫМАЕЦЦА.




**Пьютнэм. Канектыкут.**
**Зараз**

ЯНА ХАВАЛАСЯ Ў ЛЕСЕ, ВІКТОРЫЯ.

А ТЫ ПРЫМУСІЛА НАС ПАБЕГАЦЬ, СЯСТРЫЧКА. ТАБЕ ВЕЛЬМІ ПАШАНЦАВАЛА, ШТО ХІРОЎ ЗНАЙШЛА ЦЯБЕ, ПЕРШ ЧЫМ ГЭТА ЗРАБІЛІ МАЕ НАЙБОЛЬШ... РУПЛІВЫЯ КАМПАНЬЁНКІ.

АДКАЖЫ МНЕ, ДЗЕ ТЫ ЎМУДРЫЛАСЯ ЗНАЙСЦІ МАТАЦЫКЛ? ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ЁН ПРЫНАЛЕЖЫЦЬ **НАМ**.




ПАЧАКАЙ.


«ПОХВА» (CUNT). ТЫ КАЖАШ ГЭТА СЛОВА СА ЗЛОСЦЮ.
ВЕДАЕШ, А Ў БРЫТАНІІ ГЭТА ЗУСІМ БЯСКРЫЎДНАЯ ЛАЯНКА. ТОЛЬКІ Ў ГЭТАЙ КРАІНЕ ЭЎФЕМІЗМ ДЛЯ ЖАНОЧЫХ ПАЛАВЫХ ОРГАНАЎ МОЖА РАЗГЛЯДАЦЦА, ЯК РАДЫКАЛЬНАЯ НЕПРЫСТОЙНАСЦЬ.


ПА ПРАЎДЗЕ КАЖУЧЫ, ГЭТА ДАВОЛІ ПРЫГОЖАЕ СЛОВА. ЯНО ЎЗНІКЛА АД КУНІНЫ, РЫМСКАЙ БАГІНІ, ЯКАЯ АБАРАНЯЛА СПЯЧЫХ ДЗЯЦЕЙ. АЗНАЧАЕ ПРАМУДРАЯ, УСЕМАГУТНАЯ.
ЗРАЗУМЕЛА, МУЖЧЫНЫ ПАСПРАБАВАЛІ ЗАБРАЦЬ У НАС СТАРАЖЫТНЫЯ ЧАРЫ ВАГІНЫ І ЗРАБІЛІ ГЭТА СЛОВА ЗАБАРОНЕНЫМ.


ЦЯПЕР, КАЛІ ПАЧВАР БОЛЬШ НЯМА, ПРЫЙШОЎ ЧАС АДРАДЗІЦЬ НАШ САПРАЎДНЫ ТЫТУЛ.
НЯ БОЙСЯ СВАЙГО ШЛЯХУ, СЯСТРА... ПРЫМІ ЯГО.
МАБЫЦЬ Я І ПОХВА (CUNT)...


SPTOO


АЛЕ ТЫ САПРАЎДНАЯ **СУЧАРА**.


ХІРОЎ... ЗАБІ ГЭТУ САМАДАЙКУ.


БОЖА, ДЗЯЎЧЫНКА... ПРОСТА СКАЖЫ, ДЗЕ ТЫ ЎЗЯЛА ГЭТЫ БАЙК.
Я... Я ВЫМЕНЯЛА ЯГО Ў НЕЙКІХ ДЗВЮХ ЖАНЧЫН. АДНА БЫЛА Ў... У ПРОЦІВАГАЗЕ. У ІХ БЫЎ ЯШЧЭ АДЗІН БАЙК, І Я АБМЯНЯЛА ТРОХІ ЕЖЫ І БЕНЗІНУ НА ГЭТЫ.
А ПОТЫМ ЯНЫ ПАЕХАЛІ НА ПОЎНАЧ І...


ХІРОЎ, Я СКАЗАЛА ТАБЕ, ЗАБІ ЯЕ.
АЛЕ ВІКТОРЫЯ, ЯНА Ж МОЖА ВЕДАЦЬ ШТОСЬЦІ ЯШЧЭ ПРА ГЭТАГА МУЖЫКА, ЯКОГА МЫ...
МЫ ПАЗНАЛІ ЎСЁ, ШТО НАМ ТРЭБА. ТЫ АДДАНА НАШАЙ СПРАВЕ, ЦІ ЯК?


ТЫ Ж ВЕДАЕШ, ШТО ТАК.
ХІРОЎ, Я НІЧОГА ПРА ЦЯБЕ НЯ ВЕДАЮ. МАБЫЦЬ ТЫ ЧАРГОВАЯ МУЖАФІЛКА, ЯКАЯ ЎСЁ РАЗНЮХВАЕ І ЯКАЯ ТОЛЬКІ ПРЫКІДВАЕЦЦА САПРАЎДНОЙ ДАЧКОЙ АМАЗОНКІ.
А ЗАРАЗ ЗАБІ ДЗЯЎЧЫНУ... ЦІ ЗАСТРЭЛЬСЯ САМА.



BLAAM


МАЛАЙЧЫНА, ДАРАЖЭНЬКАЯ.
ПАВЕР, МАБЫЦЬ ЗАРАЗ Я І КІРУЮ ЯК МУЖЫК, АЛЕ КАЛІ ГУЛЬНЯ СКОНЧЫЦЦА, І КАРАЛЕВА, І ПЕШКА СТАНУЦЬ У АДЗІН РАД.


ПА КОНЯХ, МАЕ СЁСТРЫ!
ДЗЕСЬЦІ ТАМ ЯШЧЭ ДЫХАЕ НАШ АПОШНІ ПРЫГНЯТАЛЬНІК!


ДОБРА, ПРЫЗНАЮ, ТЫ МАЙСТАР ВА ЎСЁЙ ГЭТАЙ ГУДЗІНІЕЎСКАЙ БЗДУРЫ.
ГУДЗІНІ ВЫЛАЗІЎ З ПЕРАПЛЁТАЎ, А НЕ ТРАПЛЯЎ У ІХ.
ДА ТАГО Ж, ГЭТЫ ХЛОПЕЦ БЫЎ НУ ВЕЛЬМІ РАСКРУЧАНЫ. ВОСЬ ЯГО БРАТ ДЭШ... ВОСЬ ГЭТА БЫЎ МАЙСТАР ЗНІКНЕННЯЎ, ЯКІ НА САМОЙ СПРАВЕ БЫЎ ЗДОЛЬНЫ...
ТВАЯ МАЦІ СКАЗАЛА, ШТО ГЭТА МЕСЦА БЫЛО ПАКАЗАНА Ў ПАДАТКОВАЙ ДЭКЛАРАЦЫІ ДОКТАРА МАН ЯК ЯЕ АСНОЎНАЕ МЕСЦА ПРАЦЫ.
НАМ ТРЭБА ЗНАЙСЦІ... НАДАЛОННІК, КАРТАТЭКУ, ШТО-НЕБУДЗЬ, ШТО ДАПАМОЖА НАМ ЗНАЙСЦІ ЯЕ.
НЕЦІКАВА ПАСЛУХАЦЬ ПРА ВЯЛІКАГА ХАРДЫНА? ЭХ, ВОСЬ МОЛАДЗЬ ПАЙШЛА...
МНЕ ЎСЁ ЦІКАВА ДАВЕДАЦЦА, ГЭТА «ГРУПА КАЛПЕР», НА ЯКУЮ ТЫ ПРАЦУЕШ, ДАЕ ВАМ ПРАВА ВЫБІРАЦЬ ДЖЭЙМСБОНДАЎСКІЯ ЗАДАННІ, ЦІ ПРАВОДЗІЦЦА НЕЙКАЯ ЛАТАРЭЯ...
ТСС.
ТУТ ХТОСЬЦІ ЁСЦЬ.



ПРЫВІТАННЕ?
ДОКТАР ЭЛІСАН МАН?

RAAAAH!

УХН!


ШТО... ЯКОГА ЛЯСУНА ВАМ ТРЭБА? КАЛІ ВЫ ШУКАЕЦЕ НАРКОТЫКІ, ВЫ ВЫБРАЛІ НЯ ТОЕ...
ДОКТАР, МЯНЕ ЗАВУЦЬ АГЕНТ 355. УРАД ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ ДАРУЧЫЎ МНЕ ЗНАЙСЦІ ВАС.


ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ **АРЫШТАВАЦЬ** МЯНЕ?
НЕ, МЭМ, Я ТУТ, КАБ ВАМ ДАПАМАГЧЫ... У ВАШЫМ ДАСЛЕДАВАННІ З КЛАНАВАННЕМ.


У ТАКІМ ВЫПАДКУ МОЖАЦЕ ПЕРАДАЦЬ УРАДУ, ШТО Я СКОНЧЫЛА З КЛАНАВАННЕМ.
ТАК... НАД ЧЫМ ЖА ВЫ, Ў ТАКІМ ВЫПАДКУ, ПРАЦУЕЦЕ ЗАРАЗ?
ЛЯКАРСТВА АД РАКУ ГРУДЗЕЙ.


ВЫ МЯНЕ ПРАБАЧЦЕ, ДОКТАР, АЛЕ НЕ ПАДОБНА ГЭТА НА ПЕРАСТАНОЎКУ ПАСАДАЧНЫХ МЕСЦАЎ НА «ТЫТАНІКУ»?
КАЛІ МЫ І СТАНЕМ АПОШНІМ ПАКАЛЕННЕМ ЛЮДЗЕЙ, ТО ХОЦЬ ДАЖЫВЕМ НАШЫ НЯШЧАСНЫЯ ЖЫЦЦІ З ДОБРЫМ ЗДАРОЎЕМ.


АЛЕ КАЛІ ВЫ ЗНОЙДЗЕЦЕ СПОСАБ КЛАНАВАЦЬ ЧАЛАВЕКА, МЫ НЯ СТАНЕМ АПОШНІМ ПАКАЛЕННЕМ.
Я Ж ВАМ СКАЗАЛА, ШТО СКОНЧЫЛА З КЛАНАВАННЕМ. Я ТОЛЬКІ ЖАДАЮ ЗРАБІЦЬ ХОЦЬ ШТОСЬЦІ, КАБ АДКАЗАЦЬ ЗА СВАЮ ДУРНУЮ ПАМЫЛКУ... КАБ Я ЗМАГЛА ЗАБІЦЬ СЯБЕ БЕЗ УСЯЛЯКАГА СОРАМУ.
ПАЧАКАЙЦЕ, **ЯКУЮ** ПАМЫЛКУ?


МАЁ ДЗІЦЯ.
ГЭТА ЎСЁ З-ЗА ЯГО.


ПРА ШТО ВЫ КАЖАЦЕ?
ПЕРШ ЧЫМ НАВАТ ПАСПЕЛІ ПЕРАРЭЗАЦЬ ПУПАВІНУ, НАРОДЖАНЫ МНОЙ КЛОН ЯКІМСЬЦІ ЧЫНАМ... ЗНІЧТОЖЫЎ КОЖНАЕ СЕМЯ, ПЛОД І КОЖНАГА ПАЎНАВАРТАСНА РАЗВІТАГА МЛЕКАКОРМЯЧАГА З Y-ХРАМАСОМАЙ.
ЦІ, МАБЫЦЬ, ВЫ НЕ ЗАЎВАЖЫЛІ?


ВЫ... УЖО КЛАНАВАЛІ ЧАЛАВЕКА?
ГЭТА БЫЎ НЯ ПРОСТА «ЧАЛАВЕК». ГЭТА БЫЎ МОЙ ПЛЯМЕННІК.


СЫН МАЙГО БРАТА ПАМЁР АД ЛЕЙКЕМІІ. ЯМУ ПАТРЭБНА БЫЛА ПЕРАСАДКА КАСЦЯВОГА МОЗГУ. А МЫ НЕ МАГЛІ ЗНАЙСЦІ АДПАВЕДНАГА ДОНАРА... ТАМУ Я ВЫРАШЫЛА СТВАРЫЦЬ ЯГО.
МЫ З МАЁЙ КАМАНДАЙ ПАСКОРЫЛІ ПРАЦУ І НАРЭШЦЕ ЗМАГЛІ АПЛАДНІЦЬ ПАРОЖНЮЮ ДОНАРСКУЮ ЯЙЦАКЛЕТКУ АДНОЙ З КЛЕТАК ХЛОПЧЫКА. А ПОТЫМ Я ІМПЛАНТАВАЛА ПЛОД САБЕ.


НА САМОЙ СПРАВЕ, УСЁ БЫЛО ВЕЛЬМІ СКЛАДАНА... АЛЕ НЕ ЗУСІМ. «ДАКЛАДНАЕ КІРАЎНІЦТВА ДЛЯ ЧАЙНІКАЎ». ТАК ГЭТА НАЗВАЎ МОЙ ПАРТНЁР.
ЗАБАЎНА. МЫ ЗАЎСЁДЫ КПІЛІ СА ЗВАР'ЯЦЕЛЫХ АД ХРЫСЦІЯНСТВА ПСІХАЎ, ЯКІЯ КАЗАЛІ, ШТО МЫ ЯШЧЭ АТРЫМАЕМ СВАЁ ЗА ГУЛЬНЮ Ў БОГА. АЛЕ ЗАРАЗ...
ДОКТАР, ВЫ НЯ МОЖАЦЕ БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ, ШТО МЕНАВІТА КЛАНАВАННЕ ВЫКЛІКАЛА ЭПІДЭМІЮ. КОЖНАЯ ЖАНЧЫНА ЛІЧЫЦЬ, ШТО ЯНА ЎНЕСЛА СВОЙ УКЛАД У... ТОЕ, ШТО АДБЫЛОСЯ, НАВАТ Я. ГЭТА НАЗЫВАЕЦЦА «СІНДРОМАМ ВЫЖЫЛАГА», І...


ЯКІ, ДА ЛІХАМАТАРЫ, СІНДРОМ? ГЭТА ЎСЁ МАЯ ВІНА!
ВОСЬ МАЁ... ДЗІЦЯ РОБІЦЬ ПЕРШЫ ЎЗДЫХ, І ЎЖО Ў ГЭТЫ МОМАНТ УСЕ МУЖЧЫНЫ МЁРТВЫЯ!
НЕ ЎСЕ...


ЯК ЖЫЦЦЁ, ДОК?


О, БОЖА.


Я ГЭТА ЧАСТА ЧУЮ.
ПАМЕР ГЭТЫХ ІКЛАЎ...
ГЭТА МАЛПА-САМЕЦ?


ЭЭ, НУ ТАК... АЛЕ Я ТАКСАМА...
ЗРАЗУМЕЛА, ДЗЕ ВЫ ЗНАЙШЛІ ГЭТУ ЖЫВЁЛУ?
АМПЕРСЭНДА? ГЭТА ЁН МЯНЕ ЗНАЙШОЎ. Я ВЫКЛІКАЎСЯ НАВУЧАЦЬ МАЛПАЎ-ДАПАМОЖНІКАЎ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ ТАМУ. НЕЙКАЯ ГРУПА АДСЮЛЬ ПРЫСЛАЛА МНЕ ГЭТАГА ХЛОПЦА.


І ЁН ПРАЙШОЎ ДОЎГІ ШЛЯХ, ПЕРШ ЧЫМ ЯГО ПА-САПРАЎДНАМУ МОЖНА БЫЛО Б НАЗВАЦЬ ДАПАМОЖНІКАМ. АМПЕРСЭНД БОЛЬШ ПАДОБНЫ НА ТУЮ ЗЛУЮ МАЛПУ З «МАЛПІНЫХ ВЫХАДАК» ЦІ НА МАЛПУНАЦЫСТА СА ЗГУБЛЕНАГА КАЎЧЭГА, ЦІ НА...
Я ЯШЧЭ МАГУ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО АДЗІН З ВАС БЫЎ НЕЙКАЙ АНАМАЛІЯЙ... АЛЕ ЯК ВЫ АБОДВА ВЫЖЫЛІ?
МЫ СПАДЗЯВАЛІСЯ, ВЫ ЗМОЖАЦЕ НАМ ГЭТА РАСТЛУМАЧЫЦЬ, ДОКТАР.


ГЭТАГА НЯ МОЖА БЫЦЬ. ХІБА ТОЛЬКІ...
МАБЫЦЬ ГЭТА НЕ Я ВЫКЛІКАЛА ЭПІДЭМІЮ. МАГЧЫМА ГЭТА ЗРАБІЎ ТЫ.


**ПРАБАЧЦЕ, ШТО?** ГЭТА ВЫ Ў НАС ДОКТАР ФРАНКЕНШТЭЙН! Я НЕ ЗДЗЯЙСНЯЎ ЗЛАЧЫНСТВАЎ СУПРАЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА.
ХОПІЦЬ, ЁРЫК.
НІХТО НЕ ШУКАЕ КРАЙНЯГА. МЫ ТОЛЬКІ ЖАДАЕМ ЗНАЙСЦІ АДКАЗЫ.

ТАК... А ЗАРАЗ МНЕ ТРЭБА ЎЗЯЦЬ ТРОХІ КРЫВІ Ў ЦЯБЕ І ТВАЙГО ЗВЯРКА.
НЕ СПЯШАЙЦЕСЯ, ДОК. ГЭТА МАЛПА НЯ ВЕЛЬМІ ВЕРЫЦЬ У «ЯК КАМАРЫК УКУСІЦЬ».
НЕ ХВАЛЮЙСЯ, МЫ ЧАСТА ВЫКАРЫСТОЎВАЛІ КАПУЦЫНАЎ У НАШЫХ РАННІХ ЭКСПЕРЫМЕНТАХ. Я ДОБРА ЎМЕЮ...

IIIII!

АМПЕРСЭНД, НЕ!
НЯ ДАЙЦЕ ЯМУ ПРАСКОЧЫЦЬ НА ДВОР!







Праз чатыры гадзіны







<ТУТ НІКОГА НЯМА.>
<ТАК, Я БАЧУ.>




<БОЖА, АЛТЭР. КОЛЬКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ РЭСУРСАЎ МЫ ВЫДАТКАВАЛІ, КАБ ДАБРАЦЦА СЮДЫ?>
<І З-ЗА ЧАГО? З-ЗА ТАГО, ШТО НЕЙКАЯ АНАНІМНАЯ АМЕРЫКАНКА СКАЗАЛА, БЫЦЦАМ ТУТ ЁСЦЬ САПРАЎДНЫ ЖЫВЫ МУЖЧЫНА?>
<Я ЗНАЁМА З ТВАІМІ ПЯРЭЧАННЯМІ, САДЗІ.>




<ГЭТЫ ГЕНЕРАТАР НАПАЛОВУ ЗАРАДЖАНЫ.>
<ЁН ПАКІНУЎ ГЭТА МЕСЦА НЯДАЎНА.>
<АДКУЛЬ ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ГЭТА БЫЎ «ЁН»?>




<ТАМУ ШТО «ЯНА» НЯ МОЖА НАСІЦЬ ЧАРАВІКІ 45-ГА ПАМЕРУ.>


<ТАК... ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ.>
<ДЗІЎНА.>


<НАМ ТРЭБА СХАВАЦЦА, ПАКУЛЬ ЁН НЕ ВЯРНУЎСЯ.>
<НЕ.>
<ВІДАВОЧНА, ЁН ПАКІНУЎ ГЭТА МЕСЦА СПЯШАЮЧЫСЯ. МАБЫЦЬ ПАЧУЎ, ЯК МЫ НАБЛІЖАЕМСЯ. НАМ ТРЭБА ЗНАЙСЦІ ЯГО... ПЕРШ ЧЫМ ГЭТА ЗРОБЯЦЬ ІНШЫЯ.>


<ДЗЕЛЯ ЧАГО ЎСЁ ГЭТА? ДАПУСЦІМ, ТВАЯ КРЫНІЦА НЯ ХЛУСІЦЬ. ТУТ ЖА МОГУЦЬ БЫЦЬ ДАНЫЯ ПРА ТОЕ, ЯК СТВАРЫЦЬ БОЛЬШ МУЖЧЫН.>
<ТАК. КАЛІ ВОРАГІ АТРЫМАЮЦЬ ДОСТУП ДА ТАКІХ ВЕДАЎ... ЯНЫ ЗМОГУЦЬ АДРАДЗІЦЬ БОЛЬШУЮ ЧАТСКУ СВАІХ АРМІЙ.>
<Я НЕ ПРА ВОРАГАЎ КАЖУ, АЛТЭР. Я КАЖУ ПРА БУДУЧАЕ ІЗРАІЛЯ.>


<ЯК І Я.>
<І ШТО Ж МЫ ЗРОБІМ? КАНФІСКУЕМ УСЁ Ў ГЭТАЙ ЛАБАРАТОРЫІ?>
<НЕ, САДЗІ.>


<SIRFI ET ZEH AD HA-YESOD.>

# Бостан. Масачусетс.
# Праз шэсць гадзін










НЕ.
ХТО… ХТОСЬЦІ З НАС ПАКІНУЎ НЕПАТУШАНАЙ ГАРЭЛКУ БУНЗАНА, ЦІ ШТО?
АГОНЬ НЕ ПЕРАКІНУЎСЯ НІ НА АДЗІН З СУСЕДНІХ БУДЫНКАЎ. ГЭТА НАЎМЫСНЫ ПАДПАЛ.


АЛЕ… КАМУ ПАТРЭБНА СПАЛЬВАЦЬ ГЭТА МЕСЦА? АМАЗОНКАМ?
СКЛАДАНА СКАЗАЦЬ, АЛЕ НАМ ТРЭБА СЫХОДЗІЦЬ АДСЮЛЬ. ЗАРАЗ ЖА.
І КУДЫ МЫ ПОЙДЗЕМ, 355?


У МЯНЕ ЗАГАД ВЯРТАЦЦА Ў БЕЛЫ ДОМ, КАЛІ ЎЗНІКНУЦЬ ПРАБЛЕМЫ.
АЛЕ ГЭТЫЯ БАЙКЕРШЫ НАПЭЎНА ЕХАЛІ ЗА НАМІ ПА ПЯТАХ АД ВАШЫНГТОНА. ЯНЫ БУДУЦЬ ЧАКАЦЬ, КАЛІ МЫ ВЕРНЕМСЯ НАЗАД. НЯ МОЖАМ ЖА МЫ ПРОСТА…
ДВАНАЦ-ЦАЦЬ ГАДОЎ ДАСЛЕДАВАННЯЎ… УСЁ МАРНА.


НЯ ПЛАЧЦЕ, ДОК. У ВАС ЖА ЁСЦЬ ЗАПАСНЫ СКЛАД УСЯГО ГЭТАГА БАРАХЛА… ПРАЎДА?
Я МАГУ ДАСТАЦЬ НЕЙКІЯ ДАНЫЯ, АЛЕ БЕЗ УЗОРАЎ ЭМБРЫЁНАЎ ДЛЯ ПАРАЎНАННЯ… НЯМА НІЯКІХ ГАРАНТЫЙ, ШТО МОЙ НАСТУПНЫ ЭКС-ПЕРЫМЕНТ НЕ ЗАБ'Е ЎСІХ ЖАНЧЫН.


ДОКТАР, ХІБА БОЛЬШАСЦЬ ВУЧОНЫХ НЕ ЗАХОЎВАЮЦЬ ДУБЛІКАТЫ ЎЗОРАЎ У… У..?
У РЭЗЕРВОВЫМ СХОВІШЧЫ? ТАК.
НУ, І ДЗЕ ВАША?


У КАЛІФОРНІІ.



І ШТО МЫ БУДЕМ РАБІЦЬ? ПАВЯЗЁМ ДОКТАРА МАН ЦЕРАЗ ЎСЮ КРАІНУ НА НАШЫМ АДЗІНЫМ МАТАЦЫКЛЕ?
І АДКУЛЬ НАМ ВЕДАЦЬ, МОЖА ЎЖО ХТОСЬЦІ ПАСПЕЎ СПАЛІЦЬ І ЗАПАСНОЕ МЕСЦА?
ШТО ТЫ ПРАПАНУЕШ, ЁРЫК?



ЛІЧУ, НАМ УСІМ ТРЭБА РУХАЦЦА Ў НЬЮ-ЁРК... УЗЯЦЬ БІЛЕТЫ Ў АЎСТРАЛІЮ. І СЫЙСЦІ ПАДАЛЕЙ АД УСІХ ТЫХ, ХТО ЖАДАЕ НАС ЗАБІЦЬ.
АКРАМЯ ТАГО, МАЯ ДЗЯЎЧЫНКА ЯКРАЗ ТАМ... ПРАБАЧЦЕ, ДОК, АЛЕ РАБІЦЬ ДЗЯЦЕЙ ПА-СТАРОМУ, МАГЧЫМА, УСЁ ЯШЧЭ НАШ ЛЕПШЫ ШАНЦ. ВАМ АБЕДЗВЮМ, ЗРА-ЗУМЕЛА, НЕ АБАВЯЗКОВА ЕХАЦЬ СА МНОЙ, АЛЕ ГЭТА ТОЕ, ШТО Я Б...



НЯ БУДЗЬ ІДЫЁТАМ.
ПАЧЫНАЮЧЫ З ГЭТАГА МОМАНТУ, ШТО Б МЫ НІ РАБІЛІ, МЫ РОБІМ ГЭТА РАЗАМ.



ВЕДАЎ, ШТО ТЫ СКАЖАШ ГЭТА.
НУ І ШТО ДАЛЕЙ, ПУДЗІЛА? ІДЗЕМ ПА ЖОЎТАЙ ЦАГЛЯ-НАЙ ДАРОЗЕ ДО-ДО-СІ, КАЛІ... ЦІ АЖ ДА САМОЙ КРАІНЫ ОЗ?
ДАЙ ПА-ДУМАЦЬ, ЁРЫК...



ДАЙ ПАДУМАЦЬ...

